PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 3 (2123) Год XLII Беласток 19 студзеня 1997 г. Цана 1 зл.



*І як тут не любіць зіму.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Яўген Міранові

## На памежжы дзвюх цывілізацый

Часта маю нагоду слухаць пажылых людзей, якія як бы ў форме падсумоўваючай сваё жыццё рэфлексіі гавораць: „Каб паўсталі з магіл нашы бацькі і пабачылі, як сёння свет выглядае". І тут найчасцей ідзе доўгі пералік зменаў, якія наступілі пры іх жыцці ў галіне тэхнічнай цывілізацыі. Сялянам найбольш заўважальнай стала дарога ад сярпа і цэпа да сучаснага камбайна, а далей неймавернае падзенне попыту на зямлю. У кожнай вёсцы, у кожнай хаце можна пачуць, як гарбатыя ці інакш пакрыўджаныя лёсам дзяўчаты, якія мелі ў пасагу кавалак зямлі, маглі выбіраць найпрыгажэйшых у ваколіцы кандыдатаў на мужаў, як за кавалак загона брат кідаўся з сякерай на брата, як зямля набілітавала чалавека. Але той свет загінуў яшчэ ў першай стадыі камунізму. Затое нядаўна, толькі недзе каля дваццаці гадоў таму, з'явіўся на нашай вёсцы тэлевізар і яго менавіта нашы дзядулі найчасцей хацелі б паказаць сваім продкам. Часта пад дахам тых самых дамоў, якія нядаўна пасля змяркання поўніліся яшчэ святлом газавай лямпы, з'явілася электрычнасць, а зараз за ёю скрыначка, якая паказвае абразкі з цэлага свету. Не выязджаючы ні ў Амерыку, ні Афрыку людзі змаглі пабачыць гэтыя далёкія куткі нашай планеты. І калі феномен трактара ці касілкі змяшчаецца яшчэ ў межах рацыянальнага тлумачэння, тэлевізар ці тэлефон з'яўляюцца больш чым элементам свету фантазіі.

Трыццаць гадоў таму, калі ў вёску на камфартабельным аўтамабілі „Варшава" прыязджаў нейкі сваяк маіх суседзяў, збягалася да іх хмара дзяцей, каб пабачыць гэты цуд тэхнікі. Усе былі гатовы нават рукавом кашулі чысціць ад пылу тую „Варшаву", каб толькі ўласнік падвёз пару соцень метраў. Тыя, якім пашанцавала, ганарыліся пасля, што ехалі „таксоўкай". Бабулькі сваім унукам расказвалі на прынцыпах казкі пра Папялушку, якая за нейкі час, калі яны стануць дарослымі, будзе ездзіць на аўтамабілях. Не ведалі яны, што іх казачныя мары не былі са свету фантазіі, а толькі споўненымі прароцтвамі.

Настаўнікі, якія пры канцы сямідзесятых гадоў у электрычным тэхнікуме пераказвалі маладым людзям свае веды, не ведалі, што вучаць толькі нейкай гісторыі электратэхнікі ці электронікі. Машыны і апараты, якіх логіку функцыянавання мы вывучалі, яшчэ пакуль закончылі школу, трапілі ўжо ў музей тэхнікі. Камп'ютэрная цывілізацыя, якая тут з'явілася ў васмідзесятых гадах, праўдападобна поўнасцю будзе зразумелай толькі тым, якія тады таксама нарадзіліся. Цяперашнія людзі саракагадовага ўзросту, якія разам з бацькамі захапляліся першай электрычнай лямпачкай у хаце, не паспеюць ужо адаптаваць навейшых інфармацыйных сістэм, ні прысвоіць усяе сімволікі набліжаючайся эпохі. Дваццаць, ці нават дзесяць гадоў таму ні пра інфарматыку, ні пра праграміраванне не згадвалася ні ў сярэдніх, ні вышэйшых школах. Сёння пра „DOS" ці „Windows" вучні ў пачатковай школе гавораць з такім знаёмствам справы, як іхнія бацькі трыццаць гадоў таму пра канструкцыю „круцёлкі" на лёдзе.

На пачатку дзевяностых гадоў, амаль паралельна з тэхнічнай, прыйш-

[працяг ☞ 4]

Міхал Мінцэвіч

## Зімовая малацьба

**Калісьці зімою селянін амаль не выходзіў з клуні і не выпускаў цэпа з рук. Цяпер, дзякуючы камбайнам, найчасцей праводзіць ён свабодны зімовы час у мяккім крэсле перад тэлевізарам. Каб даведацца, як раней сяляне арганізавалі працу на гаспадарцы, наведаў я зімоваю парою некалькіх сялян-ветэранаў у Арлянскай гміне.**

Ад даўніх часоў конь быў галоўнай цяглавай сілай у гаспадарцы, транспарце і камунікацыі. Развіццё тэхнікі і першыя рухавікі — унутрага згарання і электрычныя — пачалі выцясняць коней. Цяпер конь у гаспадарцы сустракаецца толькі ў любіцеляў гэтай жывёлы. Расказвае **Сцяпан Тафілюк з Крывятыч**:

— Калісь, кажуць, аралі і ездзілі валамі, а сахой рэзалі загоны. Я ўжо рабіў толькі канём. Падлеткам пасвіў я кароў і коней. У 1939 г., як прыйшлі саветы, то конямі вывозілі па дваццаць кубаметраў драўніны з лесу. У 1941—1944 гадах быў я вывезены на прымусовыя работы ў Прусію і там працаваў фурманом. На сваёй гаспадарцы таксама трэба было мець каня. Без каня, як без рук. Калі была нейкая цяжкая работа, то спрагаліся з іншымі. Я сам цяпер на пенсіі. Каровы не маю, але маладога каня трымаю. От, так толькі. Прыходзілі ўжо купцы, але прадаць каня яшчэ я не рашыўся. Кожны месяц пісьманосец прыносіць мне пенсію і на паліва для трактара „Уладзімірац" хо-

[працяг ☞ 3]



*Такім рухавіком на газу прыводзілі ў рух малатарню ў Орлі ў 1935 годзе.*

# Мы прачыталі

*Kompromis to w języku polskim brzydkie słowo. Uparte stawianie na swoim jest kwestią honoru. Każde ustępstwo wobec przeciwnika jest poczytywane we własnym obozie za słabość albo i zdradę.*

*Obywatele kraju, w którym nie ma uczciwej historii nowożytnej, nie mogą uporać się z własnymi życiorysami. Powstaje sytuacja schizofreniczna: jeden życiorys, a jakby dwa różne życia. Byli członkowie partii piszą w gazetach i książkach o wstrętnych komuchach.*

*Wyobraźmy sobie, że wszyscy politycy polscy spotkali się przy wigilijnym stole i powinni przełamać się opłatkiem. Jak wielka byłaby konsternacja! Wiadomo bowiem, że większość najchętniej spędziłaby tę noc we własnym gronie, składając najlepsze życzenia sobie samemu, a zguby przeciwnikom.*

*Polityka, nr 52 (1996 r.)*

* * *

*Страшэнна перашкаджае ўсім нам, беларусам у Польшчы, варажнеча і грызня, што пануе паміж беларускімі арганізацыямі — бясконцыя і беспадстаўныя нападкі на БГКТ. І са старонак „Нівы", і „Часопіса", і часта з радыёперадач ідуць на нас беспадстаўныя атакі і ў гэтым выражаецца ўся актыўнасць апазіцыйных да нас арганізацый,* — у такі спосаб ад некалькіх гадоў заклікае да еднасці беларусаў Беласточчыны Ян Янавіч Сычэўскі, гэтым разам у размове з вядомым экуменічным дзеячам Міколам Раманавічам Гайдуком на старонках вядомага экуменічнага штомесячніка

*Przegląd Prawosławny, nr 12 (1996 r.)*

* * *

*Mamy prawdziwy powód do dumy, ponieważ zdrowy trzon narodu potrafił dać odpór zgniliźnie, kosmopolityzmowi, korupcji rozmaitych sprzedawczyków, miazmatom zdradzieckiego liberalizmu. Odpór dała czcigodna profesura KUL z Ryszardem Benderem a także „sfery pracownicze" ustami przywódcy Zygmunta Wrzodaka. Po wygranych przyszłorocznych wyborach patriotyczni związkowcy pokażą komuchom jak rządzić gospodarką wyłącznie za przyzwoleniem klasy robotniczej. Każdy prawdziwy Polak otrzyma odszkodowanie kapitałowe za komunistyczny wyzysk przez 50 lat. Nie będzie żadnej inflacji, gdyż patriotyczni kupcy i przedsiębiorcy nie będą podnosić cen. Zlikwidowane zostaną odsetki od lokat bankowych i w ten sposób patriotyczni przedsiębiorcy, cierpiący dziś za sprawę, otrzymają tani kredyt. Ludzie zaczną pracować nie dla pieniędzy, lecz w imię wartości.*

*Wprost, nr 51 (1996 r.)*

На ўсялякі выпадак раім нашым чытачам памяняць залатоўкі на долары.

* * *

*Obserwując życie zauważam pewną „modę" czy to na białoruskość, czy na ukraińskość. Większość robi to dla pieniędzy.*

*Przegląd Prawosławny, nr 1*

Хто гэтым разам плаціць? Раней, як пісала каталіцкая прэса і ўкраінскі часопіс „Над Бугом і Нарвою" (н-р 4-5, 1996 г.), беларусаў стварылі тут царскабальшавіцкія ўлады, цяпер праўдападобна існуем тут за ватыканскія грошы.

* * *

*Wolność jest dla wielu ludzi ciężarem, nie mogą sobie znaleźć miejsca w kraju, gdzie każdy ma prawo dokonywania wyborów. Pewni ludzie nie chcą zrozumieć i zaakceptować, że każdy ma prawo żyć tak, jak mu się podoba. Argument przeciwników pornografii, że jakaś fotografia ogranicza ich wolność, brzmi absurdalnie. Ostatecznie demokracja nie jest wynalazkiem jakiegoś faceta z Białegostoku i ma na świecie znaną od pokoleń tradycję. Dziś przyszedł czas duchowej suwerenności. Dla pewnych ludzi jest to sytuacja nie do zniesienia. Rozpaczliwie wołają o policjanta, prokuratora, przymus, nakaz, byle uchylić się od samodzielnego, swobodnego wyboru.*

*Wprost, nr 52 (1996 r.)*

* * *

*Stajemy się coraz bezwzględniejsi. Oddalamy od natury. Nie słuchamy muzyki, nie oglądamy obrazów. Człowiek szybko degeneruje się. Coraz więcej ludzi zupełnie niewrażliwych na cudzy ból. Współczesna cywilizacja generuje nowy typ człowieka: wykształconego instrumentalnie do dobrego urządzenia się w życiu. Takie zimne maszyny. Zimny człowiek ma cechy prowadzące do zabójstwa. Umie łatwiej nienawidzieć kiedy mu ktoś staje na przeszkodzie. Uczucie nienawiści jest teraz dominujące w życiu społecznym i politycznym. Nienawiść idzie od góry. Zabójcy bezpośrednio po tym, co zrobili, oglądają telewizję, zapraszają gości do pokoju, obok którego leży trup. Ten sposób zachowania jest wynikiem wykształcenia, treningu społecznego. Zbrodnia staje się tym, czym nie była kiedyś — sposobem rozwiązywania problemów. Ulega instrumentalizacji. I demokratyzacji. Zabija już teraz i lekarz, i profesor, a nie tylko lump jak było niegdyś. Kiedyś nie podawało się ręki aferzyście. Dziś człowiek żyje po niej, jakby był bez plamy.*

*Polityka, nr 51 (1996 r.)*

* * *

*Беларускія чэкісты заслужылі права на сваё свята.*

*Звязда, н-р 296 (1996 г.)*

Безумоўна! Напрацаваліся хлопцы.

# З мінулага тыдня

**Польшча** апынулася на 31-м месцы ў рэйтынгу 54-х найбольш карумпаваных краін свету, — піша штодзёнка „Nowa Europa". Рэйтынг падрыхтавала заснаваная ў 1993 годзе арганізацыя Transparency International. Крытэрыем паслужыла ацэнка ступені карумпаванасці палітыкаў і прыватных фірм у паасобных краінах, праведзеная міжнароднымі карпарацыямі і фінансавымі ведамствамі. Званне найбольш карумпаванай краіны дасталася Нігерыі. На супрацьлеглым канцы рэйтынгавага спіска апынулася Новая Зеландыя. Менш карумпаванымі за Польшчу краінамі лічыцца большасць высокаразвітых дзяржаў Захаду. Таксама чэхі, славакі і венгры, на думку аўтараў рэйтынгу, менш схільныя на хабарніцтва.

**Станіслаў Шушкевіч** — былы спікер беларускага парламента, апазіцыйны дэпутат нядаўна ліквідаванага Вярхоўнага Савета XIII склікання, не змог пакарыстацца запрашэннем Варшаўскага універсітэта выступіць з дакладам перад студэнтамі і прафесурай. Заявіў ён, што не было яму дазволена вылецець самалётам у Варшаву з-за „несапраўднасці дыпламатычнага пашпарта", паколькі яго прозвішча занесена ў чорныя спісы апальных палітыкаў, якім адменена права карыстацца дыпламатычнымі пашпартамі. Шушкевіч выказаў рашучы пратэст і патрабаваў неадкладна выдаць яму звычайны пашпарт. У адказ атрымаў ён паведамленне, што сваю просьбу павінен накіраваць у АВІР згодна з абавязваючымі законамі. Месяц таму не здолеў выехаць у Варшаву былы старшыня ВС **Сямён Шарэцкі**. Абодва палітыкі супрацьстаўляліся лістападаўскаму рэферэндуму і ўзмацненню пазіцыі прэзідэнта.

**Януш Шыманскі**, беластачанін, пасол Сейма ад Сувальскага ваяводства, прызначаны на пасаду віцэ-міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі. Шэфам нovага ведамства, якое паўстала 1 студзеня 1997 года ў выніку рэформы цэнтральнай адміністрацыі, з'яўляецца **Лешэк Мілер**. Віцэ-міністр Я. Шыманскі будзе займацца юрыдычнымі і заканадаўчымі пытаннямі, бюро па справах бежанцаў, транснранічным супрацоўніцтвам і садзеяннем з парламентам.

**Вялікі аркестр святочнай дапамогі** ўжо пяты раз праводзіў агульнапольскую гуманітарную акцыю. У Беластоку дабравольцы сабралі на вуліцах горада звыш 10 тысяч зл., якія будуць прызначаны на закуп медыцынскага абсталявання для ратавання жыцця хворым на сэрца дзецям.

**Белавежскі нацыянальны парк** адзначаў нядаўна 75-годдзе свайго існавання. 29 снежня 1921 года тадышняе Міністэрства сельскай гаспадаркі і дзяржаўнай маёмасці палічыла мэтазгодным выдзеліць з Белавежскай пушчы першы запаведнік у якасці парку натуры. Гэты дзень лічыцца датай стварэння найстарэйшага нацыянальнага парку ў краіне. БНП славіцца ва ўсім свеце рэдкімі прыроднымі якасцямі і дасягненнямі ў аднаўленні зубрагадоўлі.

**Раённая пракуратура** ў Белай-Падляшскай узбудзіла следства ў справе інцыдэнту з удзелам польскага шафёра на пагранічным пераходзе ў Казловічах у Беларусі. Шафёр падаў афіцыйную скаргу ў пракуратуру, у якой паведаміў, што беларуския міліцыянты ноччу з 1 на 2 студзеня г.г. пабілі яго і абсталі. Шафёру ўдалося ўцячы, але адмарозіў ён ступні. На польскі бок перавёз яго шафёр іншай аўтафуры. Інцыдэнтам у Казловічах пацікавілася польскае Міністэрства замежных спраў. Перад прыняццем рашэння ў гэтай справе МЗС рашыла пазнаёміцца з меркаваннямі пагранічных службаў, польскіх дыпламатычных прадстаўніцтваў і беларускага боку.

# Весткі з Беларусі

**ВС не здаецца**

Каля сарака дэпутатаў Вярхоўнага Савета XIII склікання, якія не прызнаюць прэзідэнцкага рэферэндуму ад 24 лістапада 1996 года і тым самым роспуску свайго парламента, 27 снежня 1996 года сабраліся ў Доме літаратара ў Менску. Апазіцыйныя дэпутаты распушчанага Вярхоўнага Савета рашылі, што будуць працягваць сваю дзейнасць. Хочуць яны падтрымліваць сувязі з парламентамі іншых краін, разглядалі магчымасць выслаць дэлегацыю ў Данію (апошнім часам улады Рэспублікі Беларусь не выпускаюць за мяжу на дыпламатычных пашпартах апальных апазіцыйных палітыкаў).

**Яшчэ рана**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ў эксклюзіўным інтэрв'ю агенцтву РИА „Новости" заявіў, што гаварыць аб хуткім дзяржаўным аб'яднанні Расеі і Беларусі яшчэ рана. Лукашэнка ўпэўнены: спроба дзяржаўнага аб'яднання Расеі і Беларусі сустрэне моцнае супрацьдзеянне розных дзяржаў свету.

**Дыпламатычныя дасягненні**

У 1996 годзе Беларусь падпісала 70 двухбаковых міжнародных дагавораў і 102 дакументы ў рамках Садружнасці Незалежных Дзяржаў, — пра гэта паведаміў на брыфінгу міністр замежных спраў Уладзімір Сянько. На яго думку, адметнай была дзейнасць дэлегацыі Беларусі на сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. У 1997 годзе ў Менску пад эгідай ААН павінна прайсці канферэнцыя па ўстойлівым развіцці краін з пераходнай эканомікай. Сярод поспехаў беларускай дыпламатыі ў мінулым годзе міністр адзначыў падпісанне часовага пагаднення з Еўрапейскім Саюзам аб гандлі і пытаннях звязаных з гандлем.

**Унікальная выстава**

У Магілёўскай абласной бібліятэцы адкрылася па-свойму унікальная выстаўка, прысвечаная творчасці малавядомага сёння мастака, ураджэнца тутэйшых мясцін Фёдара Ангілейкі, які тварыў у эпоху барока. Майстар з'яўляецца прадстаўніком школы гравюры, што існавала ў Магілёве ў XVII—XVIII стагоддзях. Яго творчасць звязана з выданнямі Богаяўленскага праваслаўнага брацтва, якое дзейнічала і друкавала свае кнігі ў гэтым горадзе. Чатырнаццаць гравюр Фёдара Ангілейкі ўпрыгожылі Евангелле, выпушчанае ў Кіеве ў 1697 годзе.

**Новая галерэя**

Мінулы год зрабіў мянчанам на канец яшчэ адзін падарунак. У сталіцы адбылася прэзентацыя новай мастацкай галерэі „На ростанях". Яе адкрыў аднаменны, шматфункцыянальны выставачны комплекс Міністэрства культуры Беларусі. На першай выстаўцы прадстаўлены творы вядомых айчынных майстроў жывапісу, графікі, скульптуры. Сярод іх работы Гаўрыла Вашчанкі, Віталя Цвіркі, Арлена Кашкурэвіча, Аскара Марыкса. Новая галерэя плануе праводзіць выстаўкі не толькі ў Беларусі, але і за мяжой.

**Храм у турме**

Новы храм вялікамучаніцы Анастасіі, заступніцы вязняў, асвячоны ў Віцебскай калоніі для непаўналетніх злачынцаў. Адміністрацыя калоніі, служыцелі культу і прадстаўнікі мясцовай улады выказалі спадзяванне, што рэгулярныя малітвы дабратворна паўплываюць на юныя душы. Абсталявалі і аформілі храм самі выхаванцы калоніі.

**Акцыя „Нашы дзеці"**

Па ініцыятыве прэзідэнта Беларусі ў пераднавагодні і перадкалядны перыяд у рэспубліцы праводзілася дабрачынная акцыя „Нашы дзеці". Многія супрацоўнікі міністэрстваў і ведамстваў, а таксама прадстаўнікі мясцовых органаў улады пабывалі ў дзіцячых дамах, бальніцах, інтэрнатах і ўручылі дзецям падарункі. Але, на жаль, выдзеленых бюджэтных сродкаў недастаткова, каб парадаваць усіх абяздоленых дзяцей. Таму кіраўніцтвы міністэрстваў аховы здароўя, сацыяльнай абароны і іншых ведамстваў звярнуліся да прадстаўнікоў камерцыйных структур з просьбай аказаць матэрыяльную падтрымку акцыі „Нашы дзеці", так як гэта зрабілі Аб'яднанне „Белтытуньконтракт", якое бязвыплатна перадало адной з бальніц медыцынскае абсталяванне за 25 тысяч долараў, і фірма „Інтэрсервіс", што парадавала навагоднімі падарункамі хворых дзяцей.


## Неўзабаве ў „Ніве"

- Якім будзе Беластоцкае тэлебачанне?
- Арлянская будаўнічая язва.
- Вольга Казлоўская — заслужаная для народнай культуры.

# Зімовая малацьба

[1 ☞ працяг]
піць. У мінулым годзе гандляры ездзілі па вёсках і куплялі металалом. Ахвотна бралі манежы, якія калісьці прыводзілі ў рух малатарні і сячкарні.

Даўней збожжа сеялі ўручную з плахты або сявенькі. Пазней з'явіліся першыя конныя сеялкі. Збожжа жалі сярпом, падбіралі кожны каласок. Калі паявіліся косы, смельчакі ўзяліся ўводзіць і гэтую тэхнічную навінку (касьба касой нейкі час лічылася грахом). З часам з'явіліся першыя конныя жняяркі, затым снопавязалкі і трактары. Цяпер на палях пануюць трактарныя сеялкі і камбайны. Але **Ян Стасюк з Пашкоўшчыны** кажа, што ў ягонай вёсцы да сённяшняга дня захаваўся традыцыйны спосаб уборкі збожжа снопавязалкай і малацьба „шыракамалотнай" малатарняй.

**Даніла Казлоўскі з Міклашоў** — 80-гадовы пенсіянер, так успамінае малацьбу:

— Калісьці ў вёсцы была супольная малатарня, якая не веяла. Машыну ў рух прыводзіў рухавік на газу. Як людзі трохі разжыліся, то некаторыя куплялі сабе вузкія машыны („пальцоўкі"); потым з'явіліся шырокія, барабанныя малатарні і манежы (кераты). Была тады палова (мякіна), якую скарыстоўвалі ў якасці корму для жывёлы.

Манеж — гэта прылада, якую састаўляла сістэма зубчастых колаў, і якая замяняла конскую сілу на вярчальны рух вала. Манеж прыводзіў у рух сельскагаспадарчыя машыны. Пазней манежы выціснулі цеплавыя і электрычныя рухавікі. Абмалочанае збожжа з мякінай чакаў яшчэ працэс ачысткі пры дапамозе веялкі.

**Анатоль Багацэвіч з Орлі** шмат гадоў працаваў машыністам малатарні:

— Бывала, што ўсю зіму хадзіў я з малатарняй па навакольных вёсках. Але здаралася, што наймаў з селяніна з Кашалёў, каб змалаціў мне збожжа цэпам. Патрэбна была мякіна. За працай малатарні і рухавіка (спачатку на газу) сачыў машыніст (называлі яго *омлотовым*). Для малацьбы трэба было з дзесяць чалавек. Адна асоба падавала снапы віламі на стол малатарні. На ім знаходзіліся дзве асобы: адна — развязвала снапы, другая — падавала збожжа ў машыну. Адбіралі салому, вязалі яе і складалі 4-5 чалавек. Адна асоба прымала мяхі са збожжам. Калі электрыфікавалі вёскі, паявіліся электрычныя рухавікі для малатарняў. Былі пры іх перасовачныя лічыльнікі электраэнергіі, якія замацоўваліся на слупах. Пазней з малатарняй стаў зладжана працаваць прэс-падборшчык для прасавання саломы ў цюкі.

Пад канец майго падарожжа сустрэў я маладых сялян, братоў **Сцяпана і Віктара Хурсаў з Кашалёў**:

— У нас больш за 50 гектараў зямлі. Коней не трымаем, але затое маем вялікія трактары, машыны. Сцёпка нядаўна прадаў свой танк Т-34 у Ольштынскае ваяводства. Надыходзіць такі час, што толькі сапраўды вялікія гаспадаркі змогуць утрымацца. Мы галоўным чынам вырошчваем збожжа, але шукаем таксама іншых магчымасцей. Сцёпка па прафесіі тэхнікмеханік, любіць свой занятак і ўвесь час нешта майструе, канструюе, памагае іншым сялянам у вёсцы. У 1995 г. збудаваў прэс, які пад ціскам 300-350 атмасфер выціскае з льнянога семя высакаякасны алей. У нас свой камбайн „Супер-Бізон". Калі прыйдзе жніва, то ў нас на панадворку збіраецца грамада людзей, якім трэба выкасіць збожжа. Працуем тады зранку да позняй ночы, а часам і ўсю ноч. Зімою галоўным чынам даглядаем гаспадарку. Добра кажаце, што калісьці мужык усю зіму не выпускаў цэпа з рук. Цяпер не выпускае з рук... пілота для тэлевізара.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота і рэпрадукцыя аўтара*



*Пакінутая арлянскім СКРам на волю лёсу малатарня — 1996 год.*

# Тавараабмен паміж Польшчай і Беларуссю

Замежны гандаль — адна з важнейшых галін гаспадаркі. Яго галоўная мэта — абмен часткі айчыннай вытворчасці на замежныя тавары і паслугі. Міжнародны тавараабарот становіцца больш карысным, калі змяншаюцца транспартныя затраты, а гэта магчыма дасягнуць шляхам развіцця імпарту і экспарту з суседнімі краінамі. Польшча з 1990 года адзначае адмоўны гандлёвы баланс, нягледзячы на рост тавараабароту.

Удзел Беларусі ў агульным гандлёвым балансе Польшчы надта сціплы і складае, як у імпарце, так і ў экспарце ўсяго каля 0,8%, прычым рэгіструецца адмоўнае сальда гэтага балансу велічынёю 66 млн. зл. (імпарт дасягнуў 378,3 млн. зл., а экспарт — 312,3 млн. зл.). У гандлі з суседзямі найменшы тавараабмен мае Польшча з Літвой, найбольшы — з Нямеччынай.

Структура імпарту тавараў з Беларусі прадстаўляецца наступным чынам: прадукты хімічнай прамысловасці — 36%, паліва і энергія — 29,1%, прадукцыя электрамашынабудаўнічай галіны — 11,1%, тавары лёгкай прамысловасці — 5,9%, сельскагаспадарчыя прадукты — 5,8%, прадукты харчовай прамысловасці — 5%, дрэваапрацоўчай і цэлюлёзна-папяровай — 2,9%, мінеральнай — 2,4%, металургічнай — 0,7%. Крыху інакш выглядае структура экспарту польскіх тавараў у Беларусь. Напрыклад, прадукты электрамашынабудаўнічай прамысловасці складаюць 26%, харчовай — 22,5%, хімічнай — 17,4%, лёгкай — 13,7%, дрэваапрацоўчай і цэлюлёзна-папяровай — 7,9%, сельскагаспадарчыя прадукты — 5,4%, прадукты мінеральнай прамысловасці — 1,6%, паліўна-энергетычнай — 0,9%. З гэтага відаць што з Беларусі завозім у Польшчу галоўным чынам „хімію", паліва і энергію, а вывозім — машыны і харчовыя тавары.

Трэба адзначыць, што пастаянна падае доля Беларусі ў польскім экспарце і імпарце: з 1% у 1992 г. да 0,8% у 1994 г. Гэта сумны факт, калі ўзяць пад увагу тое, што абедзве краіны маюць 416 км супольнай мяжы і некалькі пагранічных пераходаў. Відаць, патрэбны яшчэ адпаведныя законы і дагаворы і ўзаемная адкрытасць гандлёвых партнёраў з абодвух бакоў.

А як у люстэрку статыстыкі выглядае турыстычны рух паміж абедзвюма дзяржавамі? У 1994 г. Польшчу наведала 2 151 900 грамадзян Беларусі, што склала 2,9% ад агульнай колькасці замежных турыстаў. Выразна павялічылася колькасць прыезджых з Беларусі ў параўнанні з 1993 годам — 1 660 600 чалавек (2,7%). Прыбытак ад беларускіх турыстаў склаў суму 296,8 млн. дол. ЗША (4,8% ад агульных даходаў). У 1994 г. з Польшчы ў Беларусь выехала 700 000 турыстаў. Магчыма, што замежны гандаль з Беларуссю пераводзіцца ў сумкі і чамаданы псеўдатурыстаў.

**Славамір Кулік**

# Пажарнікі-ветэраны

Раней, гэта значыць у Народнай Польшчы, была адна ветэранская арганізацыя ЗБоВіД, якая гуртавала ўсіх ветэранаў вайны і працы. Цяпер натварылася іх столькі, што аж цяжка палічыць. Маюць свае арганізацыі ўсе — ад жаўнераў 1939 года і прымусовых рабочых, вывезеных у Германію пачынаючы, а канчаючы на акаўцах і іншых змагарах антыкамуністычных падпольных атрадаў, якія на Беласточчыне многа бяды прычынілі мірнаму беларускаму насельніцтву. Аднак у гэтай арганізацыйнай разнароднасці няма месца для ветэранаў пажарнай справы. Не памяталі пра іх колішнія камуністычныя ўлады, забылі таксама цяперашнія салідарнікі і сацыял-дэмакраты з „людоўцамі".

На маю думку, трэба неадкладна вырашыць справу членаў добраахвотных пажарных каманд, якія дзесяцігоддзямі ахоўвалі насельніцтва ад вогненнай стыхіі, а іх адзінай зброяй была вада. Многія пажарнікі-добраахвотцы страцілі пры тушэнні пажараў здароўе, а некаторыя нават жыццё.

Я ў чэрвені 1987 года быў дэлегатам VII З'езда добраахвотных пажарных каманд у Беластоку і там выступаў з трыбуны за прысваенне заслужаным пажарнікам ветэранскіх правоў. Удзельнікі з'езда адобрылі маю прапанову, а прэзідыум абяцаў перадаць гэты пастулат на разгляд цэнтральным уладам. Мінае ўжо дзевяць гадоў і да гэтага часу няма адказу на маю прапанову. Не чуваць было таксама, каб на гэту тэму вялася якаянебудзь гутарка.

Нядаўна старшыня Галоўнага праўлення Добраахвотных пажарных каманд Вальдэмар Паўляк выказаўся ў тэлебачанні за ўстанаўленне дадатку да пенсіі тым дабравольцам, якія былі членамі пажарных каманд прынамсі 25 гадоў, і абяцаў аказаць падтрымку такім патрабаванням. Хаця гэтае выступленне было крыху спознена, але як гавораць у народзе, лепей позна, чым ніколі. Гэтую справу трэба вырашыць як мага найхутчэй і дапамагчы ветэранам-пажарнікам, якія не шкадавалі свайго здароўя ратуючы нас падчас пажараў.

**Мікалай Лук'янюк**

# Белавежскі парк пашыраецца

Калі я даведаўся аб сустрэчы з дырэктарам Белавежскага нацыянальнага парку доктарам Чэславам Аколавым, ладжанай Гайнаўскім домам культуры пятнічным адвячоркам, вельмі ўцешыўся. Заняткі ў школе, аказваецца, стамляюць не толькі вучняў, але і настаўнікаў. Таму, закончыўшы заняткі перад калляднымі канікуламі, вырашыў і я адарвацца ад школьных клопатаў і марозным снежаньскім прыцемкам падаўся ў ГДК, дзе госця чакала дванаццаць чалавек.

Доктар Чэслаў Аколаў расказаў сабраным аб тэрытарыяльных змяненнях Белавежскага нацыянальнага парку і іх паслядоўнасцях. Абшар парку апошнім часам павялічыўся ўдвая — з 5 348 га на 10 501,95 га. У сувязі з гэтым у састаў парку ўключаны былі лясныя абшары Надлясніцтва Броўск, якія былі падзелены на чатыры ахоўныя зоны. На працу ў парк перайшлі дзевяць леснікоў і двое рабочых. Арганізуецца таксама група ахоўнікаў БНП. Тры гады спатрэбяцца яшчэ на дэталёвую распрацоўку прынцыпаў аховы парку, у тым ліку захавання жывёльнага і расліннага свету, а таксама помнікаў матэрыяльнай культуры (слядоў курганоў, борцевых дрэў). У планах прадугледжваецца зрабіць парк даступным для турыстаў, школьнай моладзі і навуковых даследаванняў. Намечана таксама выдзеліць два турыстычныя шляхі. Цяпер на новай тэрыторыі вядуцца свайго роду касметычныя працы: кашэнне травы ў маладняках, кантроль за папуляцыяй караеда-тыпографа і лясной жывёлы.

Дзеля забеспячэння пушчы ад агню пажарныя каманды ў Белавежы і Нараўцы атрымаюць чатыры дадатковыя аўтамашыны. Разглядаецца магчымасць устанавіць у пушчы вышкі з тэлекамерамі для супрацьпажарнага маніторынгу ляснога комплексу. На мяжы парку будуць выдзелены два месцы для вогнішчаў з аўтастаянкамі побач. На тэрыторыі парку можна будзе збіраць грыбы і ягады. Мясцовае насельніцтва атрымае ідэнтыфікатары, а турыстам трэба будзе набываць пропускі, якія будуць выдавацца ў Свінароях і Белавежы.

Белавежскі нацыянальны парк адзначаў 75-годдзе свайго існавання. На сустрэчы з міністрам аховы асяроддзя і натуральных рэсурсаў пастаноўлена, што ў 1997 годзе ў Белавежы адбудзецца канферэнцыя „Строгая ахова ў мяняючымся свеце".

Пасля даклада госць адказваў на пытанні слухачоў, якія галоўным чынам датычылі пушчанскай фауны і правіл паводзін мясцовага насельніцтва на новай тэрыторыі парку. На развітанне д-р Чэслаў Аколаў запрасіў слухачоў наведаць Белавежскі нацыянальны парк. Шкада, што паслухаць займальнага дакладчыка прыйшла толькі жменька людзей.

**Славамір КУЛІК**

 

# Юбілей скончыўся ў Бельску

У суботу 28 снежня 1996 г. у Бельскім доме культуры прайшло ўрачыстае пасяджэнне мясцовага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Як сказаў старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Янка Сычэўскі, завяршыла яно святкаванні юбілею 40-годдзя гэтай арганізацыі.

Прысутных прывітаў старшыня аддзела Васіль Ляшчынскі і прапанаваў паслухаць калядоўшчыкаў — падрыхтаваных Дарафеем Фіёнікам вучняў „тройкі". Затым прадставіў ён гісторыю арганізацыі ў Бельску і на Бельшчыне, прыпомніў найбольш заслужаных дзеячаў. Адным з заснавальнікаў тут БГКТ у 1956 годзе быў Кастусь Майсеня. Камітэт партыі выдзяліў таварыству ў сваёй сядзібе пакой. Першымі старшынямі Павятовага аддзела БГКТ у Бельску-Падляшскім былі Арцём Чыквін і Аляксей Карпюк, а штатнымі інструктарамі — Сцяпан Карвоўскі і Янка Шурбак.

Беларускай візітнай картачкай Бельска з шасцідзесятых гадоў з'яўляецца хор „Васілёчкі". Таксама ў Беларускім ліцэі і Пачатковай школе № 3 шмат гадоў, пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука, працуюць дзіцячыя і маладзёжныя калектывы. У гэтых двух школах — амаль палова ўсіх вучняў, якія на Беласточчыне вывучаюць беларускую мову.



*Ветэран беларускага грамадска-культурнага жыцця ў Бельску.*

Актыўнымі на беларускай ніве былі вёскі Бельшчыны. Асабліва вылучаліся Райкі і Дубяжын.

— Цяпер вясковыя гурткі заглухлі, — гаварыў Васіль Ляшчынскі, — вядома, засталіся там пераважна адны старэчы. Ды і з нашымі некаторымі дзеячамі ў апошнія гады штосьці дзіўнае парабілася. Сталі яны ўкраінцамі і пераймяноўваюць раней беларускія вясковыя калектывы.

— Я ўпэўнены, што без БГКТ Бельск не быў бы Бельскам, — сказаў, уручаючы дыпломы, бурмістр Андрэй Сцепанюк, які з'яўляецца таксама намеснікам старшыні Бельскага аддзела таварыства. — І я першыя свае крокі ставіў у нашым беларускім клубе. Дык дазвольце мне напачатак падзякаваць маім настаўнікам.

За ўзбагачванне культуры горада дыпломы ад магістрата атрымалі таксама калектывы: „Васілёчкі", „Маланка", „Дзявочыя ноткі", „Журавінка". У зале можна было прасачыць багатую іх гісторыю на фотавыстаўцы і ў вялікіх кнігах-хроніках.

Кіраўніцтва аддзела найбольш заслужаным дзеячам ахвяравала кніжкі, а Галоўнае праўленне з Беластока ўзнагародзіла іх ганаровымі граматамі і спецыяльна адлітымі да 40-годдзя БГКТ керамічнымі медалямі. Янка Сычэўскі прапанаваў мінутай маўчання ўшанаваць памяць арганізатараў беларускага грамадска-культурнага руху ў Бельску, якіх няма ўжо ў жывых: Яраслава Кастыцэвіча, Ілью Бэрната, Яна Скока, Міколу Калядку, Пятра Анапюка, Яна Тымінскага і іншых.

Прысутны на сустрэчы консул Міхаіл Слямнёў падараваў Бельскаму аддзелу БГКТ дыван з выявай Францішка Скарыны. Абдараваныя, пакуль, дакладна не ведаюць, як яго выкарыстаць — ці будзе ён па месяцы вісець у адной з беларускіх школ, ці абавязаць бурмістра, каб выдзеліў у горадзе спецыяльную для яго сцяну? Бо свайго памяшкання Беларускае таварыства ў Бельску — хаця, можна сказаць, кіруе горадам — не мае.

Пра іншыя недахопы як і пра добрае, пра поспехі ішла гутарка за лямпкай віна і салодкім. Пачастунак і закончыў сустрэчу.

**М. В.**

*Фота аўтара*

# На хутары ў Няхцянцы

**Пра бежанства расказвае 91-гадовая Ярына Ігнацюк, жыхарка вёскі Дубяжын Бельскай гміны.**

З-за Буга, мнагалюдным табарам цягнулі „мазуры". Гаварылі, што немцы ідуць. Вайна будзе. У Дубяжыне заварушылася, як у муравейніку. Хто жывы быў, рыхтаваўся ў дарогу.

Пагрузіла нас, трое дзетак, матуля на падводу. Да нас бабулька прыселася. Забралі з сабою яду, неабходны ў дарозе багаж, авечкі, кароўку, ды падаліся ў Расею, у бежанства. Маці наша гаспадаром была, а бацька ў той час у арміі служыў. У час падарожжа матуля трымалася фурманкі свайго бацькі, які таксама з сям'ёю ехаў у бежанства.

Вёску мы пакідалі 17 жніўня 1915 года. Незадоўга да Спаса. Мне тады было дзевяць гадоў, а малодшай сястрычцы — два. Бабулі нашай 83 стукнула.

Не памятаю, якімі дарогамі ехалі мы з Дубяжына, ды колькі часу. Калі апынуліся на Пінскіх балотах, узарваны быў мост на рацэ. Хто за намі з адnavяскоўцаў ехаў, вымушаны быў назад вяртацца, праезду ўжо не было.

Далей ехалі на Баранавічы, Оршу. Там здалі сваю фурманку з канём, жывёлу, якую мелі. Ніхто за гэта нам не заплаціў.

Пагрузілі нас у вагоны і далей паехалі цягнікам. Не праехаўшы чатырох кіламетраў, цягнік спынілі вайскоўцы. Увараўшыся ў вагоны, пачалі маладых хлопцаў забіраць у армію.

З намі ехала жанчына з Дубяжына. Амельянюк, здаецца, яе называлі. Сына не хацела аддаць. Бандыты чаргой з кулямёта пасеклі яе напалову. Казалі, што чатырнаццаць куляў у яе ўсадзілі. Пасля гэтага цягнік паехаў далей. Аднак з нашага вагона ніякага хлопца не забралі.

Так мы прыехалі на станцыю Сасноўка, Тамбоўскай губерні. Пасля даехалі да хутара Няхцянка. Гэтым самым канчалася наша падарожжа. Мясцовыя людзі разабралі нас па кватэрах. Я з сястрыцамі трапіла да глуханямой гаспадыні, якая жыла са сваім няшлюбным сынам. З намі пайшло пяцёра дзетак дзядулі.

Дом, у якім мы жылі, з круглякоў быў збудаваны, а пакрыты бляхай. Кватэра была велізарная. Мы спалі на падлозе. Гаспадыня з сынам — у спальні.

Наша гаспадыня прымала на кватэру пакупнікоў. Варыла ім гарбату і з таго жыла. Я пасябравала з сынам „немкі", які быў у маім узросце. Апекавалася дзяцьмі. Матуля ў той час працавала ў суседа. Памагала яму „чайную" весці ды каўбасныя вырабы рабіць. Няддрэнна нам жылося ў Няхцянцы.

Лясоў у наваколлі не было. Кватэры ацяплялі сухім каровіным калам.

У час рэвалюцыі багатыя гаспадары пахаваліся ў сховішчах, якія пабудавалі пад падлогамі сваіх дамоў.

У нашай гаспадыні быў багаты швагер. У яго быў прыгожы муравáны дом, двое ягоных братоў жылі побач. Калі прыйшлі бальшавікі, багаты шурын уцёк. Засталіся браты. Малодшы перайшоў на бок чырвоных. У час мяцяжу сярэдняга схапілі бальшавікі і казалі малодшаму яго расстраляць. Той прасіўся: „Браце, мы адной крыві, адна маці нас нарадзіла..." Нічога не памагло. Брат застрэліў брата.

Фронту ў нас амаль не было. Па нейкім часе павыходзілі са сваіх схованак багацеі. Усё па-даўнейшаму пачало вяртацца да нормы.

Прыйшоў загад вывезці бежанцаў з хутара. Пагрузілі нас на цягнік. Праехаўшы невялічкі кавалак дарогі, нехта ўзарваў чыгуначны пуць. Нас памясцілі ў лагеры. Там прасядзелі мы каля двух тыдняў. Пасля рамонту чыгуначнага шляху мы паехалі далей.

Дамоў вярталіся гэтай жа дарогай, што ехалі ў бежанства.

У цягніку памерлі бабуля і малодшая сястра-блізнячка. Бабульку пахавалі ў Оршы ў адной труне разам з адным мужыком з Падбелля. Там і сястра засталася назаўсёды.

Не вярнуўся дадому матулін бацька. Памёр у дарозе. Памятаю, як маці рыхтавала яго да пахавання. У той час нехта разлучыў наш поезд. Мы паехалі, а нябожчык застаўся ў вагоне. Зараз не ведаем, дзе пакояцца ягоныя астанкі. Далей ехалі спакойна. Мінулі Беласток, Бельск-Падляшскі. Выгрузіліся ў Рыгораўцах. За намі прыехаў бабульчын кум фурманкай.

У час нашай адсутнасці нічога амаль не змянілася ў Дубяжыне. Вёска засталася ненарушана. Толькі хата наша пацярпела. Не хапала ў ёй дзвярэй і падлогі, павырываныя былі вокны, палова печкі — разабраная. Гэтае мы пабачылі пасля вяртання ў жніўні 1919 года. У тую ж самую пару, што выязджалі, перад Спасам.

У сваёй хаце пасля бежанства я толькі ноч пераначавала. Дзядзька забраў мяне ў Мокрае. Ненадоўга там затрымалася. Вярнулася ў Дубяжын, памагала аднавяскоўцам у гаспадарцы. У 1921 годзе выйшла замуж за хлопца са сваёй вёскі. Тады пачалі мы супольна будаваць сабе дом і сям'ю. Нялёгка нам прыходзілася, аднак адолелі ўсе цяжкасці.

**Запісаў**
**Уладзімір Сідарук**

# На памежжы дзвюх цывілізацый

[1 ☞ працяг]
ла эканамічная і палітычная рэвалюцыя. Уся тэрміналогія, логіка і правілы эканоміі, якія выкладаліся на універсітэтах, падыходзілі толькі сатырыкам у кабарэ. Правілаў біржы, капіталаўкладання, лакаўтаў, падаткаў, інвеставання найхутчэй вучыліся дваццацігадовыя спекулянты, „цінкцяжэ", „конікі", пачынаючы навуку студэнты, а нават ліцэісты і былая камуністычная наменклатура, якая, як аказваецца, пра банкруцтва сацыялізму ведала на пару гадоў раней, чым астатняя грамадзяне. Старэйшае пакаленне рамантызмам геркаўскай „перастройкі" і пытае, адкуль узяліся беспрацоўныя. Наймалодшае пакаленне часам спытае, неабавязкова чакаючы адказу, што такое „сацыялізм", „партыя", „рабочы клас", „працоўная інтэлігенцыя".

Найбольш дзіўным творам аказалася дэмакратыя, якой быццам бы ўсе чакалі. Аказваецца, аднак, што пасля пару гадоў існавання відавочнымі сталі яе і больш складаныя элементы. Дэмакратыя адкрыла таксама неабмежаваныя магчымасці для актыўнасці ўсялякіх махляроў, дэмагогаў, маральна карумпаваных адзінак. Людзі, якія ўпершыню атрымалі магчымасць фарміраваць уладу, даволі часта рэагуюць эмацыянальна, чым рацыянальна. Абраннікі народа часцяком бачаць сваю місію не як грамадскую службу, а як крыніцу сродкаў, адкрываючых ім дарогу да дабрабыту. Але калі яна пераграе найбліжэйшыя гады, наступным пакаленням можа яна стаць тым, чым пакаленню, якому правала за сорак, была электрычнасць у хаце.

**Яўген Міраносіч**




 

# Новыя вершы

Уладзімір Саўчук

***

Вось гэты вечар
звязаў нас супольна
словамі чужой мовы
а праўда вялікая
як асенні сон
разгулялася на паперы
і заглянула ў душу
сваёй прошласці
цяпер другія ацэньваюць
мяне:
за мае ўчынкі
за цяжкую руку
за дзіцячыя слёзы
за навуку
за дурнату
ад якой вярнуцца
нельга
за жыццё
без перакanання.

## Сон

Спакойны вечар за акном
мяне палажылі ў сон глыбокі
рошчына вырасла даўно
а я на чужыне адзінокі
спакойны вечар і месяц
з-за гор вярнуўся
з далёкай эміграцыі
дванаццаць гадзін служыў багачу
без перакanання — ніякай рацыі
засеяў зярно — вырасла палова
асталіся толькі горкія слёзы
калі прабудзіўся заплакаў ад нядолі
а за акном шумяць бярозы.

***

Прыхваткам пішу:
— малако закіпела
белымі зубамі
ў талерцы ночы
дзеці ўжо паціхлі
накармілі пацерам душу
і ўспаміналі Бога
а Марыя гэта ўсё бачыла
і цяпер застукала ў шкло
што на іконе
а мне не верыцца гэта
мы не святыя
я пішу
а пры мне дзяжурны
анёл
на сцяне цянькомабрось.

## Бывала так

Бывала так
калі сонца прысела
на прызбу за акном
а Ты
убірала вечар
у белую пасцель
лямпа лізала
жоўценькай усмешкай
партрэт радзінны
на якім маці
хавала бяду ў вачах
і толькі печка
тэпала цёплым духам
і выганяла холад
з бядою за парог.
Бывала так
што ад стомы
забыўся пацер згаварыць
і заснуў.



*Навагодняе надвор'е ў Бельску-Падляшскім.* Фота Аліны Ваўранюк



# Дэкламатары з „тройкі”

Ужо ў мінулым годзе пісала я пра дэкламатарскі конкурс беларускай паэзіі і прозы ў бельскай „тройцы”. Хваліла вучняў, многа якіх прымала ўім удзел, і настаўнікаў, якія рыхтавалі дэкламатараў. Сёлета я зноў мела магчымасць паслухаць цікавыя выступленні.

Конкурс працягваўся два дні — столькі было ахвотных у ім удзельнічаць. Я прысутнічала першага дня, 18 снежня 1996 года, калі выступалі малодшыя вучні, ад другога да пятага класаў. Роўна ў дзесяць гадзін пачала чытаць свой тэкст першая ўдзельніца — Наталька Бабулевіч з II „а” класа.

У конкурсе прыняло ўдзел 109 вучняў, у тым ліку 31 другакласнік. Амаль ніхто з выступаючых не паблытаў тэкст, не забыўся слоў. Я з прыемнасцю слухала чарговых вучняў, а па маёй галаве блукала думка: дзе настаўнікі шукаюць тэксты? Праўда, былі вершы з падручнікаў, але вельмі мала. Я ўжо некалькі гадоў прыслухоўваюся конкурсу і кожны раз чую новыя вершы, казкі. Гэта, безумоўна, заслуга настаўнікаў. Як і тое, што кожны год паяўляюцца, апрача „ветэранаў”, новыя цікавыя дэкламатары.

Каля другой гадзіны конкурс закончыла Паўлінка Попік з V „е” класа. Я шчыра спачувала камісіі — пасля чатырох гадзін уважлівага слухання трэба вырашыць, каторае дзіця будзе ісці дахаты з радасцю, а хто мо нават і заплача. У канчатковым разліку сорак тры асобы перайшло на раённы этап конкурсу.

Наступнага дня камісія не мела такіх цяжкасцей, каб з дваццаці старшакласнікаў адабраць дзесяць лепшых.

Што будзе далей? Усё неўзабаве вырашыць раённы агляд.

**Аліна Ваўранюк**

*Фота аўтара*

*На здымках: дэкламатары з II „д” класа; адна з найлепшых дэкламатарак Оля Багуцкая з III „ц” класа.*



# Нашы карані

### XCIV. Мецэнаты

Калі ўжо наша вандроўка ў мінулае Праваслаўя на Беласточчыне завяла нас у Заблудаў, то нам аніяк нельга абмінуць і хаця б у вялікім скарачэнні трэба прыпомніць тых, хто быў стваральнікам яго славы як духовага і культурна-асветнага асяродка на тэрыторыі сённяшняй Беласточчыны.

Заблудаў паўстаў на зямлі, якую ад караля Казіміра Ягелончыка за вялікія ваенныя і на дзяржаўнай службе заслугі атрымаў баярын старажытнага праваслаўнага роду Іван Хадкевіч. Ён быў блізка параднёны цераз жонку, праваслаўную княгіню Агнію з пануючай дынастыяй Ягелонаў, а таксама з магутнымі праваслаўнымі княжацкімі родамі Бельскіх і Астрожскіх — вядомых апекуноў Праваслаўя.

З папярэдніх адрэзкаў памятаем, што ў 1482 годзе ваяводу кіеўскага Івана Хадкевіча з сям'ёю звёў у няволю татарскі хан Менглі-Гірэй. Ваявода памёр у палоне, але яго сям'ю выкупіў з няволі вялікі князь Аляксандр Ягелончык, які стаў панаваць у Вільні пасля смерці свайго бацькі Казіміра Ягелончыка. Палітычную кар'еру Аляксандр Хадкевіч пачаў рабіць пры вялікай княгіні Галене Іванаўне, дачцэ цара маскоўскага Івана Грознага і жонцы Аляксандра Ягелончыка перш за ўсё як дбайны апякун і дабрадзецель Праваслаўнае Царквы, заснавальнік Супрасльскага манастыра, шчыры прыяцель праваслаўнага манаства, і адначасова адукаванейшы чалавек свайго часу і відны дзяржаўны дзеяч. Яго асабістыя якасці як моцнага дзяржаўнага чалавека высока цанілі таксама кароль Зыгмунт і яго жонка каралева Бона. У 1502 годзе Аляксандр Хадкевіч займае пасаду каралеўскага канюшага, у 1506 годзе — маршалка, а потым пажыццёва — ваяводы наваградскага. Ажаніўся з праваслаўнай княжной Васілісай Іванаўнай са старажытнага роду князёў пінскіх Яраславічаў. У іх было шасцёра дзяцей, дочкі ўдала павыходзілі замуж, а сыны пайшлі следам бацькі і зрабілі знакамітыя дзяржаўныя кар'еры. Ішлі за прыкладам бацькі. А ён быў не толькі выдатным дзяржаўным дзеячам, але таксама дасканалым гаспадаром. Атрыманую па бацьку пушчанскую пустэчу за некалькі дзесяткаў гадоў пераўтварыў у квітнеючую зямлю, густа заселеную, належна загаспадараную з многімі млынамі, валюшамі, гамарнямі, сажалкамі, заможнымі гарадамі на магдэбургскім праве Гарадком, Харошчай, Заблудавам, а па ўсім гэтым абшары красаваліся належна забяспечаныя праваслаўныя храмы. Ён заўсёды акружаўся праваслаўным духавенствам, манаствам, баярамі.

З яго трох сыноў найвыдатнейшыя заслугі для Праваслаўя і беларускай культуры на тэрыторыі сённяшняй Беласточчыны паклаў сярэдні яго сын Рыгор Хадкевіч — гетман вялікі літоўскі, жанаты з праваслаўнай княжной Кацярынай Іванаўнай Вішнявецкай. Гэта дзякуючы іхняй усебаковай падтрымцы Супрасльскі манастыр развіўся ў велічны асяродак праваслаўнага духовага жыцця і культуры, стаў вядомы ва ўсім тагачасным праваслаўным свеце дзякуючы выдатным творам тутэйшых пісьменнікаў-палемістаў, абаронцаў Праваслаўя, скрыпторыю, з якога выйшла мноства каштоўнейшых рукапісаў, іканапіснай і залатарскай майстэрням, кампазітарам царкоўнай музыкі, тут паўстаў славуты супрасльскі распеў. Хадкевічы прынялі да сябе беларускіх друкароў Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца і заснавалі ў Заблудаве друкарню. У інтэлектуальным жыцці, між іншым пісьменстве, актыўна ўдзельнічаў сам Хадкевіч.

Яшчэ доўгія гады пасля яго смерці (1572) укладзенае ім служыла падставай для пераможнага трывання Праваслаўя на нашых землях.

**Мікола Гайдук**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Шчадруха

Ноч з 13 на 14 студзеня для кожнага праваслаўнага з'яўляецца багатым вечарам. Багаты вечар — „шчадруха" або „гагатуха" — бывае раз у год і на ўсё дазваляе. Як патрабуе традыцыя, для моладзі гэта ноч варажбы і рознай усцехі.

Жаль, што зараз моладзь не заўсёды праводзіць гэты вечар так, як нашы продкі, аднак жа некаторыя варажбы і звычаі захаваліся, а відаць гэта раніцай на Новы год у маёй вёсцы Козлікі.

Шчодры вечар быў і ёсць вечарам даволі цікавым і таямнічым. Для дзяўчат меў ён паказаць, якая будзе іх будучыня. Кожная хацела даведацца, калі выйдзе замуж і за каго. Гэтаму служылі незлічоныя варажбы.

Вельмі папулярнай у маёй мясцовасці Козлікі была варажба з курачкай. Дзяўчаты ставіліся ў круг, а перад кожнай была купка зярнятак. Пасярэдзіне стаяла курачка, найлепш чорная. Чыю купку зярнятак курка пачне есці, тая першая выйдзе замуж. Хлопцы гэта аглядаюць і насміхаюцца з дзяўчат, калі курка не падыдзе да ніводнай купкі. Не раз спяваліся тады песні пра каханне, напрыклад:

Месэць ясно светіт  
На мою біду  
Упоўнач мой любы  
Чэкай, я прыду.

Абдыманне штыкецін плота дзяўчатамі было таксама папулярнае і мела розную сімволіку. Калі дзяўчына абдыме парную колькасць, дзяўчына выйдзе замуж. Часам колькасць штыкет паказвала, за колькі год дзяўчына выйдзе замуж. Падобна было з паленамі. Дзяўчаты і хлопцы бралі з аднаго двара па бярэмі дроў і неслі ў другі. Тут лічылі іх. Парная колькасць паказвала аб хуткім замужжы або жаніцьбе. Каб пазнаць адкуль будзе муж, дзяўчына выходзіла на двор і крычала. Адкуль адазваўся сабака, адтуль, з той стараны, будзе муж. Тое ж паказваў бот, кінуты дзяўчынай цераз сваю хату. Каб дазнацца імя будучага мужа, дзяўчына выходзіла на двор і каго першага спаткала, зразумела мужчыну, так і меў называцца яе муж.



*На „Шчадруху" людзі пераапранаюцца.*

Хлопцы заўсёды з'яўляліся менш цікаўнымі сваёй будучыні і гэты вечар праводзілі больш на фокусах, хітрыках, чым варажбе. Закаханым парам высыпалі яны дарожкі попелам або саломай, здымалі брамкі і закідалі іх на страху або заносілі ў лес ці да суседа. Бывала, што гаспадар шукаў брамкі і паўгода. Не раз затыкалі коміны ніжэйшых хат, малявалі вокны дзяўчат, якія ім падабаліся, ва ўсе колеры вясёлкі. Хітрыкам хлопцаў не было канца. Былі яны і не вельмі ў добрым тоне, напрыклад, „домікі з акенцам" ставіліся сярод вёскі і прыкра было гаспадару прызнавацца да яго. Таму часам стаяў ён доўга, перасунуты ўбок.

„Шчадруха" ў нашых продкаў была вельмі цікавым і забаўным вечарам. Ніхто за гэтыя хітрыкі не злаваўся, бо і на каго, і за што. Злавацца грэх! Заўтра Новы год, дзень новага шчасця, новых спадзяванняў, шчодры дзень — так падыходзілі да гэтага вечара нашы продкі. Думаю, што мы, моладзь, не павінны забываць культуру нашых прашчураў і кожны Новы год праводзіць так, як яны, ведаючы, што ён непаўторны і бывае толькі раз у год.

**Кася АНШЧУК**  
**вуч. VI кл. ПШ у Кленіках**  
*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*

# Казка пра хітрую лісіцу

Жыла-была на свеце ліса. Аднойчы, злавіўшы курыцу, пайшла да гаспадара і просіць:

— Гаспадарыку, магу ў вас пераначаваць?

— Начуй, — сказаў гаспадар.

— А дзе я палажу гэтую курыцу?

— Тут, пад лавай.

Палажыла ліса курыцу пад лаву, а ўначы з'ела яе. Устае рана і крычыць:

— А дзе мая гуска?

— Дык ты мела курыцу.

— Аддавайце маю гуску. Як не аддасце гускі, то ўсе будуць ведаць, што вы — злодзей.

— Не было рады; мусіў гаспадар даць гусака. Ліса ўзяла гусака і пайшла да другога гаспадара.

— Гаспадарыку, магу ў вас пераначаваць?

— Начуй, — сказаў гаспадар.

— А дзе я палажу гэтага гусака?

— Тут, пад лавай.

Паклала ліса гусака пад лавай, а ўначы яго з'ела. Устала рана і крычыць:

— А дзе мой баран?

— Баран? У цябе быў гусак.

— Аддавайце майго барана. Як не аддасце барана, усе будуць знаць, што вы — злодзей.

Мусіў другі гаспадар аддаць барана. Ліса ўзяла барана і пайшла да трэцяга гаспадара. Але трэці гаспадар не быў дурны. Прыйшла да яго і пытае:

— Гаспадарыку, магу ў вас пераначаваць?

— Начуй, а гэтага барана я занясу ў хлеў.

Занёс гаспадар барана ў хлеў, а сам лёг разам з бараном. Ляжыць і чакае. Прыходзіць ліса і пачынае есці барана. Выскачыў гаспадар з хлява, злавіў лісу за карак.

— Не перахітрыш рыжая мяне.

— Пусці, гаспадарыку, пусці, я табе аддам барана.

— Баран гэта мала. Я буду мець не толькі цёплы кажух, але і прыгожы каўнер. Канец табе прыйшоў рыжая хітрыца.

Не памаглі і хітрасць, і просьбы лісіцы. Схапіў гаспадар качарэжку і забіў рыжую. Так і скончылася жыццё хітрай лісы.

**Міхал Купрыяновіч**  
**VII кл. ПШ у Кленіках**



*Гагатуха.* Малюнак Юліты МАКСІМЧУК

# Заняпад Вялікага княства Літоўскага

Вялікае княства Літоўскае, якое на працягу чатырох стагоддзяў было важным фактарам усходнееўрапейскай палітыкі, пры канцы XVII стагоддзя ў выніку ўнутраных канфліктаў і безупынных войнаў з Масквою, Швецыяй і Турцыяй папала ў руіну. Дэмаралізаваныя магнаты пры дапамозе сваіх прыватных арміяў змагаліся паміж сабою, дапаўняючы вобраз агульнай анархіі і знішчэння краіны. У спаленых гарадах і мястэчках замíралі гандаль і вытворчасць, ніхто не думаў пра школы і культуру. Штогод дзясяткі сялян паміралі ад голаду і эпідэміяў. Апалячаная шляхта больш думала пра лёс Польшчы, чым свае краіны. Не пратэставала яна, калі ў 1791 годзе Сойм у Варшаве вырашыў ліквідаваць беларускую дзяржаўнасць, уключаючы яе ў межы Польшчы. Год пасля пачалася расійска-польская вайна за беларускія землі. Перамагла Расія, у выніку чаго большая частка Беларусі ў 1793 годзе апынулася ў межах царскай імперыі. У 1794 годзе генерал польскага войска, беларус па нацыянальнасці, Тадэвуш Касцюшка прабаваў вярнуць Польшчы свабоду і патрачаныя тэрыторыі, але паўстанне пад ягоным кіраўніцтвам закончылася паражэннем. Суседзі Польшчы — Расія, Прусія і Аўстрыя дагаварыліся паміж сабою і канчаткова падзялілі астаткі былой Рэчы Паспалітай. Амаль цэлая Беларусь трапіла ва ўладанне царыцы Кацярыны II. Толькі Беласточчына ад 1795 да 1807 года знаходзілася ў межах нямецкай дзяржавы Прусіі. Расійскае панаванне на Беларусі цягнулася да 1991 года, калі на кароткі час беларускім патрыётам удалося аднавіць сваю дзяржаўнасць і яе гістарычныя сімвалы — герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг.

# Праваслаўна-каталіцкая куцця

Ужо другі год, як вучні з Храбалоў ладзяць супольную куццю.

— Думку падказала нам пані Матус, — гавораць дзеці.

Ірэна Матус, настаўніца гісторыі лічыць, што такія супольныя мерапрыемствы ў многім дапамагаюць дзеткам і дарослым.

— Бо папраўдзе, — кажа яна, — я і сама ўпершыню пабачыла, як выглядае куцця ў католікаў.

Настаўніца змагла пераканаць бацькоў сваіх выхаванцаў. Гэта яны рыхтавалі святочнае застолле. І што здзівіла ўсіх — калядныя стравы ў католікаў і праваслаўных — тыя ж самыя. Іншы толькі звычай у пачатку ўрачыстай вячэры. Католікі дзеляцца аплаткай, а праваслаўныя — *проскуркай*. Таксама і калядкі спяваюць на іншай мове.

— Найфайней пазнаваць праваслаўныя калядкі, — кажуць дзеткі-католікі.

Яны з энтузіязмам дапамагалі сваім праваслаўным сябрам і матушцы Ірэне Годун спяваць беларускія і рускія калядкі. Калядка „Учора з вячора" шыроказвядомая сярод пяцікласнікаў у Храбалах. Крыху менш ангажаваліся праваслаўныя хлапчукі. Іх, відаць, найбольш зацікавілі калядныя стравы, бо ніяк не можна было намовіць іх да спявання ні сваіх, ні сяброў калядак. На куцці — каляднай вячэры — пабывалі не толькі дзеткі і настаўнікі. Былі бацькі, і пані дырэктар, і старажылка з Храбалоў, бабка Насця. Стол быў сапраўды багаты. І, відаць, смачныя стравы на ім стаялі. Дзеткі з'елі амаль усё. За сталом панавала ўрачыстая і сардэчная атмасфера.

— Шкада толькі, што няма падарункаў, — сказалі пяцікласнікі. — А так быццам сапраўдную куццю адсвяткавалі.

Пяцікласнікі сказалі мне, што цэлы год чакалі гэтай урачыстасці. У іх класе такое свята вельмі жаданае. Тут якраз васьмёра дзяцей каталіцкага веравызнання і столькі ж праваслаўных. Дзеці гавораць таксама на розных мовах: католікі — папольску, праваслаўныя — па-беларуску. Паміж дзеткамі няма насцярожанасці да іншасці аднагодкаў. Усе сябруюць з сабой і лічаць гэта нармальнай справай. Напэўна дапамагаюць ім такія мерапрыемствы як сённяшняя куцця.

— Ад нас пераняпі думку і іншыя дзеці, — кажуць мае новыя сябры. — Цяпер амаль усе класы хочуць рыхтаваць такія супольныя калядныя спатканні.

**Ганна КАНДРАЦЮК**
*Фота аўтара*


*Супольнае спяванне калядак.*


*За супольным калядным сталом сустрэліся вучні, настаўнікі, бацькі.*



*Пагагоднія пажаданні.*

# Польска-беларуская крыжаванка № 3

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку н-р 51: капуста, шар, Об, каханка, паша, пах, бура, ток, жаба.

Узнагароды — пісьменныя наборы — выйгралі: **Кася Леанюк** з Гайнаўкі, **Томак Дземянюк** з Падрэчан, **Міраслаў Анікіюк** з Нараўкі, **Каміля Каролька** з Нарвы, **Аня Швед** з Новага Беразова, **Кася Каліноўская** з Нарвы, **Сільвія Паплаўская** з Гарадка, **Альжбета Алексяюк** з Кнарыд, **Аліна Анапюк** з Ласінкі і **Эдыта Лісоўская** з Гарадка. Віншуем!

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| RODZINA | | TORF | | WILKI | |
| KOLE-ŻANKA | | BICZ | | WIEK | PIĘKNO / OJCIEC CHRZESTNY |
| | | | | | |
| MIT / PIŁKA | | | | KĘS | |
| . | | | ZIMA | | |

# Моладзь не любіць вёскі

Адміранне вёсак — гэта вельмі частая з'ява. Маладыя найчасцей адыходзяць у горад. Старыя паміраюць. Астаюцца апусцелыя хаты. Зарастаюць сцежкі на панадворках — сляды жыцця людзей.

Палічна — гэта вельмі вялікая вёска на ўскраіне Белавежскай пушчы. Тут ёсць прыгожыя краявіды і здаровае паветра. Аднак у гэтым месцы мы бачым вельмі многа апусцелых дамоў.

— Маладыя пайшлі ў горад, а мы тут ужо дажываем, — гаворыць старэйшая жанчына з Палічнай.

Каля некаторых дамоў людзі рэжуць дровы. Займаюцца жывёлай. Каля іншых хат пануе злавесная цішыня. Тут не жыве ніводзін чалавек. Пустыя гаспадарскія будынкі, аборы і гумны, пастаўлены з добрай, моцнай драўніны, пакрытыя чарапіцай.

У Палічнай можна пабачыць крыху хлопцаў і дзяўчынак. Адны з іх гуляюць з сябрамі, іншыя памагаюць бацькам. Ніводзін хлопец ці дзяўчына не бачыць свайго жыцця на вёсцы ў ролі гаспадара або гаспадыні.

— У нашай вёсцы вельмі многа хлопцаў, мала дзяўчынак. Наша моладзь хоча ісці ў горад, — гаворыць мясцовы мужчына.

На прыкладзе Палічнай вельмі добра відаць сённяшняе адлюстраванне вёсак. Неўзабаве ў вёсках будуць жыць фермеры.

**Аня АЎСЯНЮК**
**вуч. VI класа,**
**ПШ н-р 3 Бельску-Падляшскім**
*(Рэпартаж узнік пасля VI Сустрэч „Зоркі" ў Старыне)*

**Авяр'ян ДЗЕРУЖЫНСКІ**

## Студзень

Ходзіць
Студзень,
Студзіць,
Студзень,
Цэлы месяц
Холад будзе.
Вецер зябкі
Шуміць,
А мароз
Аж трашчыць.
Ды не страшна
Янку,
Коціцца
на санках
З горкі снегавой
Крутой
Разам
З дружнаю
дзятвой.

Студзіць
Студзень,
Стогне лес,
Зай пад елачку
Залез,
Стаў, нібы
Пад парасон,
У зацішку
Морыць сон.
А спрытнюгі
Курапаткі
Пад сняжком
Зрабілі
Хаткі
І сядзяць
У ночы,
Заплюшчыўшы
Вочы...
Спяць салодка
І не чуюць,
Як вятры
Наўкол сярдуюць.

З маразамі
Ў гуле-гудзе
Ходзіць
Студзень,
Студзіць
Студзень.



Талон „Зоркі" № 3
19.01.1997

# Пастскрыптум

У ліпені дзевяностага года ў Гародні, у кватэры паэткі Дануты Бічэль-Загнетавай, сабралася немалая кампанія. Тады ўпершыню завітаў на Беларусь нью-йоркскі танцавальны калектыў „Васілёк". Неспадзявана Сяржук Сокалаў-Воюш, які сядзеў са сваёй неадлучнай гітарай побач з беларускай амерыканкай Аняй Бартуль, спыніў свае бардаўскія спевы-дэкламацыі і з мінай капрызнага хлопца сказаў: „Во, каб мне такую Аню!"

Глянуўшы на раскудлачаныя Сержуковы валасы з бел-чырвона-белай павязкай на лобе і ўсю яго няўрымслівую постаць побач з акуратненькай і прыгожанькай Аняй, мне ўсё гэта здалося настолькі неверагодным, што я пачала рагатаць: „Кожны хацеў бы!"

Пазней Аня мне сказала, што менавіта гэта быў пачатак.

Ніколі не ўгадаеш, што раптам прыцягнула чалавека да чалавека. Думаю, што Аню зачаравала ў Сержуку беларускасць. Народжаная ў Лондане, пазней грамадзянка Злучаных Штатаў, яна выхавалася ў беларускай атмасферы, якой быў перапоўнены дом спадарства Бартулёў у Нью-Йорку. Нават нянька была ў Ані беларускай і навучыла яе ад дзяцінства гаварыць па-свойму. Праз дом Веры і Францішка Бартулёў прайшло шмат цікавых людзей — беларусаў з розных канцоў свету. Асаблівай спагадай і цяплом віталі яны гасцей са сваёй далёкай, незабыўнай Радзімы. Не лічыліся з грашом, не азіраліся на іншых. Калі трэба было прыняць чалавека, яны былі заўсёды гатовы. Праўду сказаўшы, такіх дамоў у Нью-Йорку ёсць больш, але неяк гэты дом карыстаецца ў тамашніх беларусаў асаблівай пашанай.

Цяжка было Ані адарваць Сержука ад роднай Беларусі. Ведаю, як гэта выглядала. У яе ў Нью-Йорку прыгожы дом з двума гаражамі, добрая праца ў клініцы, а да таго цудоўна абсталяваны прыватны дантыстычны кабінет з трох пакояў. Ну, і бацькі, вядома, брат, дзед, сяброўкі і сябры са школьных і студэнцкіх гадоў.

У верасні дзевяностага года Сяржук прыехаў у Нью-Йорк на 19-ую сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі, і мы з Аняй і Верай паехалі сустракаць яго на аэрадром імя Джона Кенэдзі. Што гэта была за сустрэча! Абое яны аж трэсліся ад хвалявання і шчасця.

Ужо тады відаць было, што Амерыка ашарашыла Сержука. Была яму ад пачатку чужой, непрыемлівай. Пасля ў Менску сказаў мне: „Каб Ганна была са мною, дык мне і тут была б Амерыка..." Яго карэнні былі на Беларусі.

Ужо нават Аня прымервалася, каб стварыць прыватную дантыстычную клініку ў Наваполацку і пераехаць жыць да Сержука. Адрамантавала нават яго кватэру, бо ён на гэта ніколі не меў часу. А пасля неяк пераканала яго, каб прыехаў на часовы побыт у Нью-Йорк. Хопіць ужо ёй ездзіць да яго! Перад гэтым, у жніўні дзевяноста другога, яны ўзялі на Беларусі шлюб. Аня на гэту нагоду прывезла з сабою старую вышываную блузку маці.

Калі Сяржук вылецеў праз нейкі час у Нью-Йорк, многія сябры назвалі яго здраднікам. Але ў багатай і тэхнічна аснашчанай Амерыцы Сяржук адчуваў сябе кепска. Сэрца яго рвалася дахаты. А тут дзеці. Спачатку нарадзіўся сын Светавіт, а неяк хутка пасля яго і Славамір. Не мог жа ён у той час гаварыць пра вяртанне дахаты. Супрацоўнічаў з радыёстанцыяй „Свабода", пісаў вершы.

У дзевяноста пятым годзе надарылася магчымасць атрымаць пастаянную працу ў „Свабодзе", і Сяржук едзе ў Мюнхен. Неўзабаве, разам з радыёстанцыяй перааязджае ў Прагу.

Аня з дзецьмі пераехала ў Прагу 2 чэрвеня дзевяноста шостага. Прадала свой дантыстычны прыватны кабінет, а дом у Нью-Йорку здала квартарантам. У Празе яны нанялі дом, у які Аня перавезла ўсю сваю мэблю. Сям'я мусіць быць разам, калі мае быць сям'ёю. А зрэшты, заўсёды трэба ад чагосьці адрачыся! Аня пакуль што не працуе, але збіраецца працаваць у Празе.

Нялёгка ўкласці сабе жыццё, калі муж і жонка выхаваліся ў розных канцах свету. Але Ані і Сержуку гэта, здаецца, удалося.



*Сяржук Сокалаў-Воюш з сям'ёй.*

* * *

„Ніва" была адной з першых, калі не першай газетай, якая напісала пра цікавага віцебскага барда Сержука Сокалава-Воюша. Тады ён працаваў на пасадзе літаратурнага кіраўніка Віцебскага беларускага тэатра і было гэта гадоў дзесяць таму. У той час яго гнеўныя пратэст-сонгі выклікалі захапленне слухачоў, былі нечым новым на небасхіле беларускага мастацкага слова.

Нежывучая ўжо настаўніца Марылька Базылюк першая падпольна прывезла яго касету на Беласточчыну. Тады гэта быў ужо для яго „Захад".

Сяржук надалей піша і спявае. Тое, што ў іншых бывае няраз праявай кан'юнктуралізму, у Сержука натуральнае, ідзе з глыбіні душы. Апошні раз мы сустрэліся на „Бардаўскай восені" ў Бельску. Заспяваў некалькі старых і новых песень („Несмяротны наш народ", якім адкрыў фестываль, песні з серыі „Слуцкіх паўстанцаў", а таксама, як сказаў, салонную песню „Ноч у Трої" і пару іншых). А пасля даў мне ў гатэлі „прыватны канцэрт". Аня і дзеткі слухалі ўважна, быццам чулі гэта першы раз.

Сабраныя прывіталі Сержука вельмі цёпла. А пасля канцэрта падышла да нас Галена Тапалянская, настаўніца з Трасцянкі, і кажа Сержуку: „А ведаеце, дзе я чула Вас апошні раз? У Мікалаеўшчыне, на радзіме Якуба Коласа. Я была там з настаўніцкім курсам!" — „Во-во, — адказаў Сяржук, — якраз тады я перадаў касету Марыльцы Базылюк".

У радыё „Свабода" Сяржук адчувае сябе вельмі добра. Лічу, кажа ён, што аператыўная праца для Беларусі вельмі патрэбная. У Мюнхене, дадаў, я першы раз адчуў сябе еўрапейцам, у Празе — славянінам.

Вясною Сяржук і Аня збіраюцца ў паездку на Беларусь.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

---

Максім Танк

# Дзённікі

***(фрагменты)***

## 1979

**3.XI.** Лячу сваю прастуду. Прачытаў І. Б. Зінгера апавяданне „Ключ", канцоўка якога нагадвае шчаслівае завяршэнне многіх сентыментальных амерыканскіх фільмаў. Званілі з розных рэдакцый, каб перад Новым годам падзяліцца з чытачамі сваімі творчымі планамі.

Раскрыццё сваіх пісьменніцкіх планаў тоіць у сабе такую ж небяспеку, як раскрыццё — ваенных. Па тэлефоне гаварыў з Піменам (Панчанкам — рэд.) і Караткевічам. Абмяняліся сваімі крытычнымі думкамі аб паэзіі. В. С. Смірноў запрашае разам з генеральнымі консуламі ПНР і ГДР зноў з'ездзіць на паляванне.



*Беларускія пісьменнікі ў гарнякоў.*

**16.XI.** Закончыўся пленум нашага Саюза пісьменнікаў, на які прыехала шмат гасцей з Масквы, Украіны, Латвіі, Літвы.

А. Л. Петрашкевіч пайшоў на работу ў БСЭ (выдавецтва „Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" — рэд.), а загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва назначаны сакратар Мінскага гаркама І. І. Антановіч.

**21.XI.** Зноў атрымаў некалькі анкет. У адной з іх пытае аўтар: „Як гляджу на беларускую мову?" Я не спецыяліст, не вучоны. Мову сваю вывучаў за плугам, за касой, у бацькоўскай хаце, на кірмашах, на фэстах, на вяселлях і хрэсьбінах, на бясконцых сваіх вандроўках па родным краю. Да мовы падыходзіў з эмацыянальнай стараны, з слыхавой, зрокавай. І таму магу толькі сказаць, як пісьменнік, што яе люблю. І, хоць у роспачы за сённяшні яе стан, веру ў яе будучыню.

**1.XII.** Раней, як закончылася сесія Вярхоўнага Савета, вярнуўся зусім разбіты. Ціск 220 на 120. Ніяк не ўдаецца яго знізіць. Сёння абяцаў наведаць М. І. Таўбэ.

Атрымаў ад Н. Вылчава „Работническо дело" (8.XI), дзе надрукавана падборка перакладзеных ім маіх вершаў. Напісаў некалькі новых вершаў, пасля якіх такое адчуванне, быццам нейкі вецер выдзьмуў з галавы ўсе думкі. А тут трэба рыхтавацца да чарговых выступленняў. І ўсё малоць і перамолваць аж да атуплення адно і тое ж, адно і тое ж.

**4.XII.** Тэма: нехта, каб праславіцца і праславіць свой горад, раскапаў фіктыўныя гістарычныя дакументы і — закруцілася карусель. Падрыхтоўка да юбілею: прысвойванне вуліцам і пляцам горада імён розных славутасцей, будаванне ім помнікаў, рэстаўрацыя старых будынкаў, арганізаванне розных сесій, урачыстасцей і г.д.

**5.XII.** Чытаю Алеся Разанава. Выдавецтва не хоча друкаваць яго зборнік. А дарма. Гэта — паэт цікавы. Можа залішне ўскладнены для чытачоў, якія развучыліся думаць, і, калі што не месцяцца ў іх загіпсаваных сацрэалізмам галовах, б'юць у набат. Рэдка калі нешта новае ў навуцы і мастацтве — Міцкевіч, Маякоўскі, Тувім — прымалася без скандалаў, пратэстаў. Калісьці Пантагафен, каб абвергнуць Коха, на публічным паказе глытаў бацылы халеры, а Рублёва лічылі варварскім багамазам, „мастацтва якога мае толькі этнаграфічную вартасць".

**7.XII.** Відаць, пакуль не стане ўсім відочны абсурд нашых пустазвонных пасяджэнняў, нам не ўдасца іх спыніць. А колькі людзей усё гэта адрывае ад працы, колькі марнуецца часу, сродкаў. Аж страх падумаць.

Позна звярнуўся з прыёму польскай дэлегацыі. Ледзь дацягнуўся дадому, такі дзьмуў сцюдзёны, штармавы вецер. Па радыё перадавалі мае вершы.

***(заканчэнне будзе)***

# Айцец Роберт Тамушанскі (1940-1996)

10 снежня 1996 г. у Рыме памёр кіраўнік Беларускай праграмы Ватыканскага радыё **айцец Роберт Тамушанскі**.

Нарадзіўся ён у 1940 г. у Нью-Йорку, ужо ў амерыканскай сям'і. Эмігрантам быў ягоны дзед, які прыехаў у Амерыку дзесьці з Палесся (сам а. Роберт не ведаў дакладна адкуль) яшчэ за царскім часам.

Напачатку Роберт Тамушанскі вучыўся ў манаскай школе ўкраінскага грэка-каталіцкага ордэна базыльянаў. Дзякуючы знаёмству з беларускімі каталіцкімі святарамі, аа. Францішкам Чарняўскім і Уладзімірам Тарасэвічам (пазнейшы біскуп і апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў па-за Беларуссю), пакідае ён базыльянаў і пачынае штудзіраваць тэалогію ў Нямеччыне. У гэтай краіне ў 1966 годзе быў рукапалажаны ў сан каталіцкага духоўнага.

Пасля высвячэння пераязджае ў Лондан і жыве ў беларускім цэнтры на Фінчлі. Навучае ён там, між іншым, у беларускай сярэдняй школе і абараняе дактарат па беларускай філалогіі ў Лонданскім універсітэце. У пачатку 70-х гадоў пасылаецца ў Рым дзеля дапамогі айцу Льву Гарошку на Ватыканскім радыё. Айцец Роберт не раз успамінаў яго цвёрдую школу беларускай мовы, якую давялося перайсці незалежна ад дактарату па філалогіі. Пасля смерці а. Льва назначаецца ён кіраўніком Беларускай праграмы. Сваю функцыю выконваў да апошняга дня.



*Айцец Роберт адпраўляе імшу ў капліцы Ватыканскага радыё.*

Айцец Роберт быў цікавай асобай сярод беларускай дыяспары. Ніколі не бачыў Беларусі. Бацькаўшчыну сваіх продкаў ведаў толькі па кніжках і расказах эмігрантаў. Пашчасціла яму на знаёмствы з выдатнымі беларускімі эміграцыйнымі дзеячамі, асабліва з каталіцкімі святарамі. Апрача ўжо ўспомненых, у Лондане некалькі гадоў жыў ён з пакойнымі біскупам Чаславам Сіповічам і айцом Язэпам Германовічам, ды сённяшнім апостальскім візітатарам для беларусаў-католікаў у свеце, кіраўніком лонданскай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны айцом Аляксандрам Надсонам.

Былі ў айца Роберта багатыя кантакты з Беласточчынай. Цяперашняга працаўніка Ватыканскага радыё Янку Мойсіка, ураджэнца вёскі Парцава і выпускніка Беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча, знайшоў ён у Вене, дзе той вёў незайздроснае жыццё эмігранта пасля ваеннага становішча. Некалькі асоб з цяперашняга нашага журналісцкага асяроддзя мелі нагоду вучыцца гэтай прафесіі пад вокам айца Роберта. Іншыя пазнаёміліся з ім асабіста, ці то ў Лондане, ці ў Рыме. Яшчэ іншыя чулі ягоны голас па радыё. А трэба памятаць, што не так шмат у свеце радыёстанцый, якія перадаюць праграмы па-беларуску.

Айцец Роберт Тамушанскі любіў паўтараць: „Госпад Бог стварыў вялікі заалагічны сад, у якім усе мы экспанаты. Асаблівым выставачным месцам з'яўляецца Радыё Ватыкан, дзе сабраны прадстаўнікі пяці дзесяткаў нацыяў з усяго свету".

За магчымасць пазнаёміцца з гэтым месцам, з неардынарнымі людзьмі, з Вечным горадам я таксама захоўваю ў сваім сэрцы глыбокую ўдзячнасць айцу Роберту. І перш за ўсё, за шматгадовае сяброўства.

**Мікола Ваўранюк**
*Фота аўтара*

# Новыя вершы

**Барыс Руско**

## Пошукі восені

У віры жоўтых лісцяў
шукаю восені,
а імгла густая,
а вочы пад нагамі.
У праменні касым
шукаю восені,
а кветкі ў фіялеце,
а мёд халодны.
У валасах паінелых
шукаю восені,
а каляндар стройны,
а дзён горстка.

## У лістападзе

У крылах птушкі
змоўкла дрэва,
з лісцем
пад ногі ветру
апала пёрка.
На рубеж поўдня
ўцякае восень,
пушчу зацугліў
лістапад.

## Журба

З адлегласці бліжэй —
а так далёка —
да сцежак родных,
цішы зялёнай.
У восенькай душы
ўспамінаў жар
з журбою
ў цеснай змове.
І пацяплела
ў каменным мяшку,
і спакайней
сярод начэй
сірочых.
З адлегласці бліжэй —
як у сне —
да хаты роднай,
дзе хвілі моўкнуць,
бо шчасце ўбачылі.

## Адлёт птушак

Буханку неба
працінаюць крылы,
поўдзень гусцее
птушынымі торгамі,
і толькі луг
срэбрам у дарогу,
і толькі сонца
сцяной развітальнай.
А на парозе
настальгічны дзень,
а ў вітражы ўспамінаў
птушка,
прастор у чаканні
шчэбету,
што згас у адлёце.

## Над магілай

Дрэвы маўчаць
сном акамянелым,
доўгія цені
за крывізною,
а свяча полымем
адлічвае час,
трывогай набухае
ўяўленне.
Мой бедны розум
на адхоне дня
і хвошча скрытна
неабсяжнасць,
і стаіць смерць
непаразумелая.

# Куцця ў арышце

Беластоцкі арышт на вул. Капэрніка, як і любая гэткага тыпу ўстанова, выглядае панура. Але, вось 3 студзеня 1997 года заглянуў і туды светлы праменьчык. Архіепіскап Беластоцка-гданьскі Сава справіў для арыштаваных праваслаўнага веравызнання Куццю. На сустрэчу з архіепіскапам прыйшла грамадка заключаных грамадзян Польшчы, Беларусі, Расіі, Арменіі. Было іх, як адзначыў архіепіскап, менш, чым у мінулыя гады. Гэта — паводле яго — адзнака здароўя ў грамадстве.

Малебен для сабраных адслужыў капелан зняволеных а. **Уладзімір Цыбулінскі**, пасля чаго са словам да арыштантаў выступіў архіепіскап Сава. Зняволенасць ён назваў *узнагародаю за грэх* і заахвоціў, каб час у арышце паспрыяў рэфлексіі і маральнаму ачышчэнню. Архіепіскап, дзякуючы з арыштантамі просвірай, прывітаў іх са святам і пажадаў ім хуткага вяртання ў свае краіны.

Дырэктар арышту **Аляксандр Базылюк** перадаў зняволеным „адзіныя слушныя ў такой сітуацыі і сэнсоўныя пажаданні хуткага выхаду на свабоду". Выходзіўшы адсюль, гаварыў ён, не трэба казаць нам „да пабачэння". Тут трэба гаварыць „бывай".

З заключанымі ў арышце грамадзянамі Беларусі (было іх трое) сустрэўся генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку **Міхаіл Слямнёў**. **(ам)**

# Юбілей арлянскага храма

**У 1997 годзе каштоўны помнік духовай і матэрыяльнай культуры — праваслаўная царква Архістраціга Міхаіла ў Орлі адзначае двухсотую гадавіну аднаўлення пасля пажару.**

Орля на Падляшшы — адзін з важнейшых цэнтраў праваслаўнага рэлігійнага жыцця на Беласточчыне. Паводле мясцовай царкоўнай хронікі пабудова першай царквы ў Орлі звязана з асобай падскарбяга літоўскага Богуша Багавіцінавіча — уладальніка Орлі і Сямятыч. Выводзіўся ён са старажытнага шляхецкага роду герба Корчак, прадстаўнікі якога займалі адміністрацыйна-дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім. 2 лістапада 1529 года Богуш Багавіцінавіч саставіў тастамент, у якім „сваю душу даручыў у апеку між іншым св. Іаану Багаслову і Архістрацігу Міхаілу" — святым, якія да сённяшняга дня з'яўляюца заступнікамі мясцовага прыхода. Святкаванні ў гонар св. Іаана Багаслова маюць характар прыхадскога свята і кожны год адзначаюцца 21 мая і 9 кастрычніка, а імя Архістраціга Міхаіла носіць мясцовая царква.

Знаўца мінулага рэгіёна Ян Глінка падчас экскурсіі ў Орлю ў 1937 годзе выпісаў з мясцовай „Кліравай ведамасці" наступнае: „На месцы, дзе стаяла уніяцкая царква, якая згарэла ў 1790 годзе або крыху пазней, у 1797 годзе на складчыны прыхаджан і дзякуючы намаганням тадышняга настаяцеля Рыгора Паеўскага збудавана была новая, цяпер існуючая драўляная царква. Будаўнічы матэрыял на царкву падаравала графіня Браніцкая. Пазней, у 1879 годзе да гэтай царквы дабудавалі рызніцу".

У 1979-1981 гадах, дзякуючы старанням айца протаіерэя Аляксандра Такарэўскага, быў праведзены капітальны рамонт Свята-Міхайлаўскага храма. У яго ходзе быў узмоцнены фундамент, узведзены новыя сцены і дах.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*



*Свята- Міхайлаўская царква ў Орлі.*

# Радзіма — Родзіна

**Частка LXIV**

Прыведзеныя сёння мною выказванні выпадкова сустрэтага суразмоўцы рашуча адрозніваюцца ад усіх дагэтуль цытаваных ацэнак, поглядаў, характарыстык ды інтэрпрэтацый паняцця Радзіма. Здарылася гэта ў аўтобусе, які ехаў з Беластока ў Ялоўку. Аўтобус гэты не едзе праз Бандары, але я ў яго сеў таму, што прагнуў наведаць магілу маіх бацькоў у Юшкавым Грудзе, праз які едзе кожны аўтобус у Ялоўку.

Сеў я пры маладым чалавеку, які загаварыў да мяне па-польску. Характар яго выказванняў поўнасцю датычыў тэматыкі, якая мяне інспіравала ва ўсім цыклі „Радзіма—Родзіна". З гэтай прычыны я амаль на працягу гадзіны слухаў гэтага чалавека, стараючыся не згубіць ніводнага слова, хаця тое, што ён мне гаварыў, абсалютна сварылася з маімі ідэаламі і з маімі поглядамі. Аднак, кіруючыся поглядам, што амаль заўсёды цікава тое, што арыгінальнае, нават тады, калі яно пярэчыць нашым прынцыпам, стараюся амаль поўнасцю паўтарыць тое, што я пачуў ад майго спадарожніка. Прыйшлося мне гэтыя выказванні перакласці на беларускую мову:

„Вы напэўна здзівіцеся, калі вам скажу, што я вас ведаю. Мабыць, тры гады таму назад вы прыязджалі ў Шымкі на базу і куплялі штучныя ўгнаенні. Я нават памагаў вам укладваць мяшкі салетры ў багажнік „Лады". Зараз, напэўна, вы ўжо прыгадваеце гэтае здарэнне. Я ведаю, хто вы, бо вы калісьці прыязджалі ў школу ў Шымках, калі я быў вучнем бадай што трэцяга класа. А сёння я ўжо студэнт трэцяга курса, але не скажу вам якое маё прозвішча і ў якой вучэльні вучуся. Я чытаў некалькі адрэзкаў вашай „Радзімы — Родзіны". Праўда, вы там не выказвалі сваіх поглядаў, а толькі цытавалі іншых, але не маю сумненняў, што мілыя вам толькі тыя людзі, якія цвёрда стаяць на грунце беларускай нацыянальнай свядомасці і беларускай мовы. Хачу вам сказаць, што я па паходжанні беларус і ў роднай хаце чуў толькі беларускую мову. Аднак прагну сказаць і тое, што на справу беларускасці гляджу зусім па-другому, чым глядзіце вы. І таму я ўпэўнены, што вы не надрукуеце маіх выказванняў. Скажу вам адкрыта, што вы з гэтай сваёй беларускасцю спазніліся прынамсі на сто гадоў, ну можа на пяцьдзесят. Вы ўсё прагнеце разбудзіць нейкі беларускі патрыятызм, як бы не разумелі таго, што захоўваецеся як тыповы рэакцыянер, які не разумее характару той эвалюцыі, а можа і рэвалюцыі, якую перажывае сучасная Еўропа. Еўропа і ўвесь свет. Ці вы не разумееце, што нават такія кансерватыўныя і шчыльна зачыненыя грамадствы як японскае ці індускае стрымгалоў амерыканізуюцца? Вы не абражайцеся, што я так адкрыта і, можа вам здаецца, рэзка гавару аб гэтым. Але мне, маладому чалавеку, проста вас шкада і болей нічога. Такія людзі як вы прагнуць павярнуць назад кола гісторыі, але гэта яшчэ ніколі нікому не ўдалося. Вы прагнеце загнаць беларусаў у нацыянальны запечак і замураваць іх так, каб яны не толькі не змаглі кантактавацца з Еўропай, але нават паглядзець у яе бок. Але гэта вам не ўдасца. Ці вы не ведаеце аб тым, што нават нямецкая моладзь вельмі хутка амерыканізуецца. А ўвогуле то ўсе еўрапейскія народы вельмі ахвотна адракаюцца ад многіх праяваў сваёй традыцыйнай культуры і добраахвотна пераймаюць амерыканскую культуру. А пра мову дык няма ўжо сэнсу гаварыць. Вядома, што ва ўсёй Еўропе стрымгалоў пашыраецца англійская мова. Ну і вядома, што калі выступае пашырэнне англамоўнага абшару, дык звужваюцца абшары нацыянальных моў у Еўропе. Ну, дык калі ўзяць пазіцыі мовы нямецкае, французскае, італьянскае, то ці магчымым ёсць, абы ўтрымала свае пазіцыі мова беларуская?

Калі я быў на першым курсе, дык прыйшлі да нас дзеячы з БАСу, хлопец і дзяўчына. Ну, сабралі нас, па паходжанні беларусаў, і пачалі нешта там гаварыць аб сваёй дзейнасці. Пасля выцягнулі спеўнічак і дзяўчына пачала спяваць беларускія песні. Вы ведаеце, што ўсё гэта было кампраметуючае. Я прачытаў тэксты тых песень і, прызнаюся вам, што яшчэ не бачыў так прымітыўнай паэзіі. Вы ведаеце, гэтыя словы былі так прымітыўныя, што я ўвогуле так разрагатаўся, што не мог стрымацца. Толькі падумайце, уся Еўропа шалее пад амерыканскія рытмы, а тут нейкае авечае патрыятычнае бляянне. Мелі гэтыя дзеячы яшчэ раз прыйсці, але мабыць ужо не прыходзілі. Зрэшты і з нас ніхто ўжо болей не пайшоў. Хачу сказаць, што віну за складваючуюся сітуацыю прыпісваю вам і вам падобным, значыцца, старэйшым, якія збаламуцілі моладзь, на шчасце не ўсю, а толькі жменьку моладзі.

Вы ведаеце, што Праваслаўная царква ў гэтай справе разумнейшая чым вы, бо духоўнікі гавораць: мы праваслаўныя палякі і ўсё. Яны рэалісты, а вы наіўныя ідэалісты, якія сеюць свае ідэі насуперак усяму рацыяналізму".

**Алесь Барскі**

# Як я хутка „перастроілася"

Было гэта ранняй вясною 1993 года. Мае сябры-аднагодкі з Віцебска — псіхіятр Жэня (рускі) і выкладчык заходніх моў Лёня (яўрэй) рашылі мне паказаць свой горад, у якім іх сем'і жывуць ад пакаленняў. Швэндаліся мы па Віцебску некалькі дзён, а і так усяго яны мне не паказалі і не далі адчуць. Завялі мяне таксама ў Краязнаўчы музей. Нікагутка з наведвальнікаў у той дзень у музеі не было.

— Вам студенческие?... — запыталася маркая цётка ў касе.

Мы пераглянуліся — даўно ж мы павыраслі са студэнцтва, але хай ёй будзе так, а нам танней.

Рушылі мы па выставачных залах, глядзелі ўсё: жывёл, расліны, тэхніку, фальклор, побыт, трохі гісторыі... Абмяркоўваючы, пацішу тое-сёе мы каменціравалі. Вядома, экспанатаў мы не чапалі, хоць рука час-часом свярбела. Нарэшце — мастацкая галерэя. Карціны ўсе пад штамп сацрэалізму...

Цётка, якая нас упусціла ў музей, увесь час ішла нашым следам — хіба ж не чакала, што будзем браццa за экспанаты?! Заўважылі мы яе, калі стала перада мною, узяўшыся пад бакі, бойкая і злосная.

— Ух, как ты быстро перестроилась!

Я вырачылася на яе, няўпэўнена глянула на сяброў: адкуль гэтай даме відна, што я „перабудавалася"?..

— Ух, как ты быстро заговорила по-белорусски!

Мы дружна зарагаталі.

— Ведаеце, спадарыня, я не мусіла перабудоўвацца. Родную мову ведаю з маленства.

— Она же с Польши, с Белостокщины, — пачаў тлумачыць Лёня мой феномен.

— А, иностранка. Тогда понятно. Простите.

Увечары Лёнева мама, музыкант з Тэатра імя Я. Коласа, смяялася з нашай гісторыі.

— Вот я слушаю вас и удивляюсь: как хорошо теперь говорят по-белорусски Лёня с Женей! А мы, родители, каждый год были принуждены носить в школу записки — они со всех сил убивались, чтобы не ходить на белорусский язык!

Ну, хлопцы выраслі, паразумнелі, а, можа, стала больш ім відна? Дарэчы, Лёня ды Жэня ведаюць таксама добра і літоўскую мову. От, такая ў іх, вучоных людзей, фанабэрыя, зусім нямодная ў *стране*, дзе няма патрэбы людзям глупствамі займацца.

**Міра Лукша**

# Ліст у рэдакцыю

**Шаноўныя рэдактары „Нівы".**

Я, пастаянны чытач вашага тыднёвіка, хачу падзяліцца сваімі заўвагамі наконт таго, што пішаце пра прэзідэнта Беларусі. Ён — чалавек вельмі адукаваны і я не разумею, чаму называеце яго калгаснікам, ды параўноўваеце да таго славутага Эмігранта з Грузіі, які быў прысланы, каб знішчыць праваслаўную рэлігію. Лукашэнка нікому не забараняе маліцца і будаваць касцёлы. Хвала яму за гэта, што ніякім Зэнкам, Мечыславам, Станіславам не дазволіў разжыцца коштам беларусаў. Слава Яму!

Добра, што не паверыў Захаду і не разваліў калгасаў. Адразу быў бы голад і смерць беларусам, а апрача Расіі ніхто нам не дапаможа. Беларусь звязана з Расіяй назаўсёды. Лукашэнка не забараняе вучыцца беларускай мове. Гэта справа іх, беларусаў, маюць жа вольны выбар. Мы таксама не гаворым на вуліцы на беларускай мове.

Ваш Янэк закрануў пра рэжым Ярузельскага. „Ніва" не павінна такіх дурнотаў друкаваць. Каб Войтэк тады не зрабіў парадку, мы ўжо напэўна не маглі б „Нівы" чытаць. Нейкі Адась (ідзе пра Міхніка — рэд.) называе Прэзідэнта шэфам калгаса і раўняе яго да Вольфавіча Уладзіміра. А хто выдумаў калгасы і „чэка", разбіваў купалы цэркваў? Забылі ўжо пра свайго Фэлікса?

Зэнкі, Станіславы, Мечыславы хацелі б зрабіць у Беларусі так, як у Сербіі. Тады цешыліся б. Гэты Вука, што выступае супраць Мілашэвіча — гэта хрыстапрадавец, робіць усё за чужыя грошы. Дайшло да таго, што чорны амерыканец павучае сербаў і пагражае жалезнымі дзідамі, калі не будуць яго слухаць.

Прабачце, што так дрэнна пішу на беларускай мове. Гэта вынік палітыкі пана Масьціцкага і Рыдза-Сміглага.

**Алесь В., Беласток**

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 нумары за 1996 г.)***

Які ж лёс чакаў нашых бежанцаў дома, у дарагой Айчыне?

Цяжкі, вельмі цяжкі. У санацыйнай Польшчы жылося нашым беларусам вельмі цяжка. Вярталіся з бежанства на папялішчы і запушчаныя палеткі. Не мелі патрэбнай у гаспадарцы жывёліны, не мелі чым пасеяць, пасадзіць і за што купіць. Доўга і з велізарнымі намаганнямі адбудоўваліся, набывалі неабходную жывёліну і даводзілі да парадку свае палі і сенажаці. Грошы на свае патрэбы маглі здабываць толькі як сезонныя работнікі і за сельскагаспадарчую прадукцыю, а яны былі нізкаплатныя тады і іх не хапала.

Нашы вёскі пачыналі быць моцна перапоўненыя, а адысці з вёскі ці зарабіць не было дзе, бо беспрацоўных было многа, а месц працы мала. Нават беспрацоўныя з горада часта наймаліся на малаплатныя сельскагаспадарчыя сезонныя работы. Калі паяўлялася нейкая сталая праца, то ў першую чаргу давалі яе паляку, каталіку, а не праваслаўнаму беларусу. Так, напрыклад, паўстала наша Гайнаўка, у якой ахвотней давалі працу прыезджым з усіх канцоў тагачаснай Польшчы палякам, як мясцовым беларусам. Найбольш даступным і распаўсюджаным заняткам беларусу ў той час была прафесія пастуха. Ой, непрыхільнымі былі адносіны санацыйных улад да беларусаў. Да праваслаўя таксама...

І не дзіва, што некаторыя нашы людзі былі незадаволены, што вярнуліся з бежанства, і не дзіва, што многія з іх проста зайздросцілі тады грамадзянам Савецкага Саюза, дзе — паводле падпольнай камуністычнай прапаганды — усе мелі працу, працавалі толькі па восем гадзін, мелі платныя водпускі, а навуку і медыцынскую апеку бясплатныя, ды і мноства іншых прывілеяў.

І няма чаго нам цяпер апраўдвацца, што нашы людзі да 1939 года чакалі савецкага. Жылося ім пры санацыі вельмі цяжка, польская дзяржава зусім з імі не лічылася, таму і чакалі. Няма было тады і такіх, якія прабавалі нелегальна перайсці польска-савецкую граніцу.

Вынікі такіх адчайных крокаў былі розныя, але канчатковыя эфекты атрымоўваліся падобныя. Каму не пашчасцілася перайсці граніцу і трапіў у рукі польскім гранічным службам, той даставаў салідна ў сраку і атрымоўваў немалы турэмны тэрмін нялёгкай санацыйнай турмы. Каму пашчаслівілася перайсці — таксама даставаў не менш у сраку і не меншы турэмны тэрмін. І канешне ж па сваёй, так бы мовіць, камфартабельнасці і існуючых у іх звычаях і парадках савецкая „тюряга" нічым не ўступала польскаму санацыйнаму „пердлo". Так што было ў чым выбіраць нашаму беднаму беларусу...

Хачу дадаць пры гэтым, што калі і дзе хаця крыху з беларусамі лічыліся, то яны нікуды не ўцякалі і нікога да сябе не чакалі. Беларусы заўсёды ўмелі і ўмеюць шанаваць сваю Айчыну, калі гэтая Айчына хаця сяк-так іх шанавала ці шануе.

Ці не чулі нашы людзі пра розныя злачынствы, якія мелі месца ў Савецкім Саюзе ў той час?

Чулі. Польская санацыйная прэса часта і шырока паведамляла пра іх. Даходзілі такія весткі і з іншых месц, але хто ж ім верыў? Ды як жа ж было і паверыць у такое?! Лічылі іх проста злоснай праваканцыяй...

***(працяг будзе)***

# Позірк у мінулае

**24 студзеня**

41 г. — забіты Гай Юлій Цэзар, рымскі імператар.

Малады Цэзар, калі плыў аднойчы па моры, папаўся ў рукі піратам, якія зажадалі ад яго выкупу. Паслаўшы слугаў па грошы, ён паводзіў сябе так ганарыста, быццам гэта не ён, а яны былі яго заложнікамі. Чытаў ім паэмы і вучоныя трактаты, а калі некаторыя з іх не хацелі гэтага слухаць, абзываў іх невукамі і варварамі, пагражаючы пакараннем іх. Піраты лічылі гэта жартамі і цярпліва чакалі на выкуп. Калі грошы былі дастаўлены і Цэзар выйшаў на свабоду, ён адразу паспяшыў у Мілет, дзе, скалаціўшы некалькі суднаў, напаў на тых жа піратаў. Ён стрымаў слова, караючы ў першую чаргу тых, якія раней не хацелі слухаць ягоных слоў.

—

Калі за вялікія даўгі распрадавалі маёмасць аднаго арыстакрата, Цэзар купіў яго падушку. Здзіўленым сябрам адказаў: „Нельга правароніць гэтай падушкі, на якой можна спакойна спаць, маючы столькі даўгоў”.

—

Цэзар, калі прыплыў у Карфаген і сходзіў з карабля, спатыкнуўся і ўпаў, упершыся рукамі ў зямлю. „Вось, Афрыка, ты ў маіх руках!” — усклікнуў ён.

—

76 г. — нарадзіўся Адрыян, рымскі імператар.

Адзін стары рымлянін дарэмна дабіваўся ласкі ў Адрыяна. У рэшце рэшт перафарбаваў ён валасы і зноў падаўся на аўдыенцыю. Аднак імператар пазнаў яго і, не падаўшы віду, сказаў: „Дарма просіш мяне; я ўжо адмовіў твайму бацьку”.

—

1457 г. — нарадзіўся Генрых VII Цюдар, англійскі кароль.

Генрых VII спытаў аднойчы свайго астролага:

— Ці ведаеш, дзе я правяду найбліжэйшыя святы?

Астролаг пацінуў плячыма.

— А я вось ведаю, што ты правядзеш іх у Таўэры! — крыкнуў кароль і тут жа прыказаў зняволіць нешчаслíўца ў турму.

—

1712 г. — нарадзіўся Фрыдрых II Вялікі, прускі кароль.

Пасля далучэння Сілезіі Фрыдрых II на нейкі час заняўся садаводствам. Аднак на сілезскай зямлі ягоныя саджанцы чамусьці не хацелі прыжывацца і ўсыхалі. Манарх дзіваваўся:

— Усё раблю паводле правілаў, а яшчэ ніводанае дрэўца не дало пладоў...

— Гэта таму, — адказаў адзін герцаг, — што ў вас могуць расці толькі лаўры.

—

У ходзе Сямігадовай вайны Фрыдрыху II прывялі аднаго салдата-дэзерціра.

— Чаму ты пакінуў мяне? — спытаў кароль.

— Бо вашы справы, спадар, дрэнныя, — шчыра адказаў уцякач.

— Пачакай да наступнай бітвы, — сказаў кароль. — Калі справы не паправяцца, здэзерціруем разам.

—

Фрыдрых II не цярпеў непунктуальнасці, якою асабліва грашыў ягоны госць, французскі філосаф Вальтэр. Аднойчы, калі Вальтэр чарговы раз спазніўся на прыём, кароль устаў і напісаў на каміне: „Вальтэр — першы асёл”. Прачытаўшы напісанае, Вальтэр дапісаў знізу „Фрыдрых Другі”. **(Ш)**

# Парнасік

## Зіма і прастор

Мароз трашчыць,
Вецер гуляе.
Душа не баліць,
Калі свой народ праслаўляем.
Зіма, хоць халодная, —
Ты наша кніга,
Для мяне заўжды родная;
Будзе цяпло і адліга.
Вецер сціх
І стала ціха.
Промні ўміг
Красуюцца дзівам.
Ляцяць праз прасторы
Ад сонца сваціла
І, як на бушуючым моры — зямлі,
Да нас дакацілі.
Снег нападаў
І спакойна ляжыць,
Падарункі нам даў.
І як гэту тайну адкрыць?
Агравае зямлю,
Каб расліны жылі
І ў будучых днях
Каб вясной ажылі.
Цяжка птушкам, звярам,
Бо зіма раскруцілася;
Іх найлепшым дваром —
Наша ласка і міласць.
Трэба ім дапамагаць —
Кожны зможа!
І зярнят дасыпаць.
Дай спагаду нам Божа.
Ты, зіма, астудзі
Нашу тупасць,
Да жыцця абудзі
Нашу радасць.

**Мікалай Панфілюк**

## Далёка замуж не аддавай

Ах маманька мая, родная,
як я цябе ўспамінаю,
якое шчасце замужняю быць
цяпер я добра знаю.
Як я была маладзенькая
і жыла ў сваёй хаце,
як ты мяне кахала,
ты дарагая мая маці.
Была я маладзенькая
і расцвітала як цвяточак,
у сваёй я хаце
мела свой куточак.
Як была я ў сваёй хаце
і з табою, маманька, жыла
гэта ўсё я памятаю,
тады вясёлай я была.
Цяпер я ўжо замужняя,
мужык з суседняга сяла,
ой, навошта родна маці,
гуды замуж аддала.
Там усе чужыя людзі,
незнаёмае сяло,
калі ўспомню родну хату
заўсёды гляну я ў акно.
Вельмі часта ўспамінаю,
я сваю родную хату,
каб магла я расказаці
пра гора свайму брату.
Як я замуж выходзіла
брат мой слёзы праліваў,
калі хату пакінула,
мяне шчыра цалаваў.
На развітанне ён сказаў:
„Сваёй хаты не забывай,
калі будуць у цябе дочкі
далёка замуж не аддавай”.

**Мікалай Пучко**

## Хто я

Адны кажуць, што я — украінец,
Другія тлумачаць, што беларус,
Іншыя кацапам мяне называюць
І выганяюць на „Русь”.
А я ў Польшчы беларусам нарадзіўся,
Дзед, прадзед жыццё тут правялі.
У праваслаўнай я царкве хрысціўся
І праваслаўным астану на век.
Мне дзяржавай з'яўляецца Польшча,
За яе буду я ваяваць.
І заўсёды буду змагацца
Парадак у ёй захаваць.

**Мікалай Лук'янюк**

# Парады на конт поўха

З цікавасцю прачытаў я даўжэзны расказ Сакрата Яновіча п.з. „Змаганне з поўхам” („Ніва” н-р 48 за 1996 г.). Меўся наш бедны літаратар з гэтым звяркам, які прычыніў яму столькі стратаў у агародзе, падрываючы карані карысных раслін. І ўся бяда тут у тым, што поўх аказаўся пераможцам, а натуга Яновіча марнай.

Але я маю добры спосаб, каб пазбыцца поўха. У мяне ёсць вельмі разумная кошка, маладая яшчэ, якая ўміг упалюе поўха ды яшчэ свежага на парог прынясе і чакаць пахвалы будзе! Нічуць не жартую: мая кошка, гэта „спец” лавіць мышэй, пацукоў, але найспрытней хіба ловіць поўхаў.

Летам, калі поўх найбольш змагаецца з зямлёю, выкопваючы свае купкі, я, выходзячы з хаты, амаль штодзень знаходзіў на ступеньцы парога нежывога ўжо поўха, а пры ім кошку, якая чакала ад мяне пахвалы. Ды я тады, хапаючы за венік, даваў ёй іншую „пахвалу”. Яна ўцякала, але надалей рабіла тое ж, быццам мне на злосць. Я лічу, што поўх робіць многа карыснага для зямлі. У мяне ёсць даваенная кніжка, у якой напісана, што ад гэтага звярка больш карысці, чым шкоды. Магчыма, што гэта погляд ужо ўстарэлы, аднак я поўха бараню, а сваю кошку магу пазычыць спадару Яновічу.

**Мікалай Панфілюк**

# Вер — не вер

Астроне! Прысніўся мне вельмі страшны сон. Бягу я праз нейкія горы, даліны, ізноў горы. Бягу ў адной начной кашулі. Уцякаю ад нейкіх бандытаў, якія гоняць мяне, бо я быццам зрабіла нешта вельмі кепскае (не ведала я нават, што), а яны хочуць мне адпомсціць. Страх і пачуццё віны без прычыны паралізуюць мяне.

І раптам падбягаю я да гары, проста да якой вяла дарога, дзе я бегла. Нават не была гэта гара, а высокі ўзгорак. Я даволі лёгка ўбегла на яго і затрымліваюся, як слуп: перада мной прорва. А затрымалася я перад прорвай дзякуючы майму мужу. Гэта ён мяне затрымаў (невядома, адкуль ён тут узяўся). Схапіў мяне за кашулю ззаду і стрымаў. Кашуля, аднак, раздзерлася напалову зверху ўніз і я стаю, зусім голая. Бандыты некуды прапалі.

А майму старому неўзабаве прысніўся такі сон. Быццам сядзяць яны з маім бацькам-нябожчыкам ля ракі. Гутараць. Раптам паяўляюся я. Бацька пачынае дакараць мяне, што я не даглядаю яго.

Што могуць абазначаць гэтыя сны?

**Ірэна**

Ірэна! Праследуе цябе пачуццё віны, жалю, быццам нешта ў тваім жыцці не здзейснена. Абодва сны прадвяшчаюць нейкія цяжкасці ў жыцці. Тое, што ты ўцякала ад бандытаў, папярэджвае цябе аб нейкім небяспечным падарожжы. Пра тое ж гавораць і тыя горы. Хаця твой муж стрымаў цябе перад прорвай, то засталася ты пры гэтым голая, што сведчыць аб нейкіх фінансавых клопатах. Адным словам, страшэннай катастрофы не будзе, але без грошай, як вядома, таксама далёка не заедзеш.

Пра жыццёвыя цяжкасці гаворыць і сон твайго мужа. Бацька ў сне — жывы ці нябожчык — заўсёды прадвяшчае клапатлівую сітуацыю.

**Астрон**

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 3. моцная прыправа для мяса, 8. паўвостраў у Егіпце, 9. кантынент, 10. $O_3$, 11. дыпламатычны прадстаўнік, 13. з яго бетон, 15. раздзел механікі, 16. злакавае суквецце, 20. гучны ў Рыо-дэ-Жанейра, 22. асабовы склад установы, 23. накладка на твар для непазнання, 27. мостабудаўнік, 29. месца на службе звязанае з выкананнем пэўных абавязкаў, 30. грамата ханаў Залатой Арды для падуладных абласцей, 31. інертны газ, 32. рака, якая ўпадае ў большую, 33. будуе, 34. біблейны прарок.

**Вертыкальна**: 1. японскае адзенне, 2. даўняя мера зямлі, 4. шпіянаж, 5. жыхары паўночна-заходняй Сібіры, 6. магазін, лаўка, 7. задняя частка тулава, 12. месяц, 14. ашчаднасць, беражлівасць, 16. міжземнаморскі востраў, 17. англійскі вяльможа, 18. кіслы напітак, 19. хваёвае дрэва, 21. спірт, 24. наваколле, 25. несправядлівасць, 26. польскія горы, 27. трымае парусы, 28. на іх дзеці з'язджаюць зімою з горкі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 48 н-ра:**

**Гарызантальна:** барон, вандроўка, карта, актод, рак, харваты, Арызона, сет, тэніс, Асвея, аўтасклад, Аракс.

**Вертыкальна:** прырода, банка, „Ніўка”, віраванка, аўтазавод, квант, Данія, рыс, кат, епіскап, сетка, Атлас.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Міхалу Байко** з Беластока

Ніва

**„Niwa”**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”. Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł, a kwartalnie — 22,75 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Пародыі

### Талія ад каваля

*Выкую з мяса*
*мурашыную талію*
*сапхну непрыгожае*
*уніз*
*уніз*
*уніз...*

**Валя Анішчук**

Куплю ялавічыны і свініны,
І завітаю ў дом каваля.
Гэты каваль — мой доктар адзіны —
Буду фігурай здаволена я:
Талію выкуе мне мурашыную —
Усё непрыгожае ўніз сапхне.
Я сімпатычнаю стану дзяўчынаю,
Будуць зайздросціць равесніцы мне.
Будзе каваць ён талію ноччу,
Ранкам каваць і нават ў абед.
Выкуе так, што не захочацца
Мне прымяняць нават гарсэт.
Выкуе так, што танцы і песні
Буду, як п'яная, танчыць, спяваць...
І захаваю да самае пенсіі
Тонкую талію ад каваля.

**Сяргей Чыгрын**

## Графіці ў аўтобусе

Рэмбо! Дапамажы нашай Паліцыі!

Квяткося! Ты — каралева аднойночы disco-polo!

Чаго ты, дурань, чытаеш?!!

Зуб за зуб! — лозунг злоснага дантыста.

Дурны, дурнейшы, ATARI.

Ідзі штудзіраваць, будзеш адукаваным беспрацоўным!

Няма вяртання ў пячоры. Нас усіх цяпер замнога!

Смерць самагубцам!

„Сіf" не парысуе твае лысіны.

Ляжачых вецер мінае.

**Сабраў Лук**




## Сентэнцыі

Дождж ломіць хрыбет прасторы.

* * *

Сябе не апярэдзіш.

* * *

Які ты, такі і свет.

* * *

Найгоршым дарадчыкам з'яўляецца прымірэнне.

* * *

У шапцы-нявідцы не страшны страх.

* * *

Гаворыць гладка, бо сэнс згубіў.

**Барыс Руско**

## Басейн

З бальніцы для псіхічна хворых адзін пацыент напісаў сваякам: „Мне жывецца добра. Нам пабудавалі басейн з вышкай. Кожны дзень мы ў ім плаваем, а з вышкі даём нырца. Нам паабяцалі, што калі будзем добра сябе паводзіць, то ў басейн нальюць вады..."

## Пад кант

Лепш згубіць з разумным, чым знайсці з дурнем. Але, калі ўжо здарыцца, трэба рабіць так, каб дурань не заўважыў знаходку.

* * *

Дзе сякуць дровы, ляцяць трэскі. Дзе двух б'юцца, карыстае трэці. Але можна і так: Дзе двух б'юцца, ляцяць трэскі. Дзе сякуць дровы, карыстае трэці!

* * *

Усё марнасць марнасці, калі ў цябе пусты кашалёк. Пафіласофстваваць можна, але мудрацы неахвотна думалі і думаюць пра быццё за пустым страўнікам.

* * *

На галодны розум прыходзяць такія думкі, на якіх можна добра зарабіць, але адразу булку не купіш.

* * *

Я ёсць, бо думаю. Калі сплю, няма мяне?!

**Міра Лукша**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Гутараць два сябры:

— Сёння ў аўтобусе шафёр глядзеў на мяне так, быццам бы ў мяне не было білета.

— І што ты зрабіў?

— Глядзеў на яго так, быццам бы ў мяне быў білет.

* * *

Жанчына хваліцца сяброўкам, як у чацвёрты раз выходзіла замуж:

— Калі пераступілі парог царквы, пагасла святло; стала зусім цёмна.

— І што ты зрабіла?

— А што мела рабіць?! Павяла мужа да алтара; дарогу ўжо на памяць знаю.

* * *

— Здароў, Андрэй! Што ў цябе чуваць?

— Арганізую матрыманіяльнае бюро.

— А які ў цябе капітал?

— Шэсць дарастаючых дочак.

* * *

— Здароў, Алёша! Куды ідзеш?

— Нясу грошы ў банк.

— Ты хіба здурэў? у іх грашыскаў столькі, што яшчэ другім пазычаюць.

* * *

— Ці гэта праўда, што пасвенчаная паліцыя мае лепшыя вынікі?

— Пэўна! Мокрая дубінка лепш прыстае.

* * *

Сустракаюцца два пенсіянеры:

— Столькі гадоў не бачыліся! Давай закурым з гэтай нагоды люльку.

— Не куру ўжо люлькі, толькі папяросы.

— Чаму?

— Люлька мне задарагая.

— Што ты гаворыш! Махорка для люлькі самая танная...

— Так; толькі папяросай можа мяне нехта пачаставаць, а люлькай не...

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Так хутка праляцеў час, што я нават не агледзелася, калі скончыла вучобу ў вышэйшай школе. Цяпер я ўжо на стажыроўцы. Яшчэ гэты год буду адчуваць сябе студэнткай, а пасля — гайда ў дарослае жыццё!

Але з чым ісці ў тую дарослаць? Уяўляю сабе, як прыйду на пастаянную працу, а там — усе старыя, жанатыя, замужнія. З кім пагаворыш, пойдзеш на забаву... Усе студэнты, мае аднакурснікі, раз'едуцца. Што тады са мной будзе?!

Мая старэйшая сястра папярэджвала мяне, што калі не выйду замуж на студыях, дык пасля будзе выйсці цяжка. Яна таксама ў свой час была на студыях і апынулася ў клапатлівай сітуацыі. Хадзіла з хлопцам чатыры гады, а на пятым курсе ён сказаў ёй, што ніколі з ёю не ажэніцца, а выедзе дахаты, у Варшаву. Крыўда душыла яе (чаму ж не сказаў раней?), і яна з ходу выйшла замуж за іншага, які больш-менш ёй падабаўся. Ну, і жывуць. Адным словам, я ведала, што трэба выйсці на студыях, але сваіх ведаў на практыцы прымяніць мне не ўдалося.

Цяпер сама думаю: чаму так здарылася? Можа лепш было вучобай не пераймацца, а думаць пра будучыню... Колькі разоў сяброўкі цягнулі мяне то на дыскатэку, то на нейкія імяніны, а я сядзела пнём і вучылася. Заўсёды было то перад калёквіумам, то перад экзаменам. Бацькі казалі мне, што вучоба гэта залог шчаслівага жыцця. Будзе чалавек незалежны, будуць яго шанаваць і лічыцца з ім.

А мне сёння здаецца, што я сваё шчасце праваронніла. Не толькі добры прафесіяналізм у жыцці лічыцца. Куды больш была б я шчаслівая, калі б у маёй заліковай кніжцы не былі чацвёркі і пяцёркі, але быў бы ў мяне каханы хлопец, які стаў бы неўзабаве маім мужам.

Не хацелася б мне, каб гаварылі на мяне: старая дзеўка. А вось падумай, як я адчуваю сябе! Паехалі мы сёлета — яшчэ ўсёй сваёй старой кампаніяй — сустракаць Новы год у Белавежу. Усе сяброўкі — са сваімі хлопцамі, некаторыя ўжо нават замужнія, а я — адна, мне далі добразычлівыя сяброўкі такога ж недабітка, як і я. Думаеш, цікава мне было гуляць на такім балі?! І хлопец, відаць было, да мяне не ліпнуў, і ў мяне настрою не было.

А навокал было так цудоўна, так снежна, бела і марозна! Здаецца, толькі кахацца... Але не ўскочу ж я ў ложак да выпадковага кампаньёна з забавы. Што я, ужо найгоршая, што буду кахацца з абы-кім... Ну, можа, крыху замалая і затоўстая (і гэта мяне таксама мучыць у апошнія гады), але раблю ўсё, каб выглядаць больш зграбна: раблю высокія прычоскі, нашу абутак на вельмі высокіх каблуках, і ў суме выглядаю прыемна. Прынамсі сяброўкі так гавораць. Думаю, што, калі б я ўжо выглядала зусім страшна, дык і мама сказала б мне пра гэта.

Ну, і вось такія маю праблемы. Як ты думаеш, Сэрцайка, ёсць яшчэ нейкі шанц, што я таксама буду ў жыцці шчаслівая?

**Алена**

Алена! Чаму не?! Але пры ўмове, што ты вызвалішся ад сваіх комплексаў. Можа гэта яны давялі да такой сітуацыі, а не занадта пільная вучоба. Няма нічога горшага, чым дадаванне сабе прыгажосці, а перш за ўсё росту занадта высокімі прычоскамі. Чалавек тады выглядае, як з нейкага гратэску, непрапарцыянальна і смешна. А занадта высокія каблукі? Яны ж не даюць магчымасці свабодна хадзіць, адчуваць сябе лёгка, дык адкуль жа тут возьмецца ахвота яшчэ некуды пайсці, патанцаваць на дыскатэцы...

Можа ў тваёй падсвядомасці была гэта боязь, а не патрэба вучыцца больш за іншых. Вучоба — гэта была толькі прычына, каб адмовіцца ад супольнай забавы. А, зрэшты, не ты адна вучылася. Іншыя, аднак, дзяўчаты, дзе ні паказаліся — нават у лекцыйнай зале — мелі поспех, а цябе з'ядалі комплексы — і гэта было відаць. Уяўляю сабе невысокую поўную дзяўчыну з мятлою на галаве — якое гэта мусіла быць смешнае! А была б ты натуральная, такая, як ёсць, напэўна хлопцам падабалася б. Павінна ты быць больш упэўнена ў тым, што кожны некаму калісь спадабаецца. Зрэшты, у жыцці так яно і ёсць.

Адно, што ты можаш зрабіць, дык гэта крыху пахудзець. Будзеш выглядаць прыгажэй і будзе табе лягчэй хадзіць. Магчыма, тады і той высокі каблук будзе лепш падыходзіць да тваёй фігуры.

Бацькі сказалі табе праўду, што вучоба вызваляе чалавека. Шкада, што твая мама не патрапіла пераказаць табе, што дзяўчына павінна рабіць са сваім целам, каб наступіла поўная гармонія яе духа і цела.

Не хвалюйся, можа яшчэ не ўсё страчана. Няпраўда, што выходзяць замуж толькі на студыях. Іншая справа, што тады гэта можна зрабіць значна лягчэй, бо навокал поўна моладзі. Але не варта рабіць гэта сілком. Ці ж твая сястра адчувае сябе шчаслівай, скажы?!

Калі будзеш сабою, напэўна знойдзеш яшчэ хлопца. Галава вышэй!

**Сэрцайка**